BELARUSIAN DIGEST

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 10(105) Кастрычнік 2002 October Год выд. 10.

## Зноў за бортам...

Беларускае пытаньне цягам апошніх тыдняў было ў цэнтры ўвагі некалькіх уплывовых міжнародных структур - у першую чаргу, Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы, а таксама АБСЭ й Эўразьвязу.

Галоўны й несуцяшальны вынік: наша краіна зноў застаецца па-за межамі Рады Эўропы. Статус спэцыяльна запрошанай краіны ў Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы для Беларусі па-ранейшаму не адноўлены. Больш за тое, створаная адмысловая камісія для вывучэньня справаў зьніклых беларускіх палітыкаў. Рацыя паведамляла ўжо, што старшынём гэтай камісіі стаў вядомы расейскі праваабаронца Сяргей Кавалёў.

Спэцыяльны дакладчык Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы па Беларусі, дэпутат Бундэстагу Вольфганг Бэрэндт прапанаваў гэтую камісію накіраваць у Менск. Як заявіў Вольфганг Бэрэндт у інтэрвію, апублікаваным на Інтэрнэт-сайце Рады Эўропы, "беларускія ўлады гавораць, што нічога ня ведаюць пра лёс зьніклых палітыкаў. Але мы думаем, што спадару Лукашэнку вядома штосьці пра гэтыя зьнікненьні". Сябра Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы спадар Бэрэндт сьцьвярджае: у Рады Эўропы ёсьць зьвесткі, атрыманыя ад сакрэтных служб, што гэтыя людзі забітыя.

На думку спадара Бэрэндта, сытуацыя ў Беларусі ня проста не паляпшаецца, а робіцца ўсё горшай. Асабліва што тычыцца свабоды слова. Прыкладам таму - судовыя перасьледы беларускіх журналістаў, закрыцьцё недзяржаўных газэт. Паводле Бэрэндта, уплыў незалежных СМІ ў Беларусі заўважна паменшаў. "Лукашэнка хоча праклясьці дарогу ў Раду Эўропы шляхам процістаяньня. Хутчэй за ўсё, ён спадзяецца, што мы ня зможам казаць "не" заўсёды. Але тут ён памыляецца: яму давядзецца пайсьці на многае, каб адпавядаць нашым патрабаваньням" - сказаў спэцыяльны дакладчык ПАРЭ па Беларусі.

У Вене, на паседжаньні Сталага Камітэту Арганізацыі па бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе, у мінулую пятніцу таксама закраналася беларускае пытаньне. Генэральны сакратар Савету Эўразьвязу, вярхоўны прадстаўнік Эўрапейскага Зьвязу ў пытаньнях зьнешняй палітыкі й бясьпекі Хаў'ер Салана заявіў, што Эўразьвяз будзе па-рознаму ставіцца да Беларусі, Украіны й Малдовы. Нагадаем: тры месяцы таму Эўразьвяз прыняў рашэньне выпрацаваць адмысловую стратэгію ў дачыненьні краінаў, якія вельмі хутка будуць межаваць з Эўразьвязам, - Беларусі, Украіны, Малдовы. Эўразьвяз цяпер вынаходзіць шляхі судзеяньня й дапамогі гэтым краінам - падкрэсьліў Хаў'ер Салана. Падчас дыскусіі пасьля выступу Х.Саляны слова ўзяў і беларускі амбасадар у Аўстрыі, кіраўнік пастаяннай дэлегацыі Беларусі ў АБСЭ Віктар Гайсёнак, які яшчэ раз на словах прадэкляраваў імкненьне Беларусі разьвіваць канструктыўнае супрацоўніцтва з Эўразьвязам і АБСЭ.

**********************************************

## АКЦЫЯ Ў АБАРОНУ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

**20 верасьня прайшла трэцяя сустрэча аргкамітэту рабочай групы дзеля правядзеньня сумеснай масавай акцыі дэмакратычных палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў. Вырашана стварыць рабочую групу падрыхтоўкі акцыі.**

Мы ўзялі камэнтар у адказнага сакратара Ўправы Партыі БНФ Аляксея Кавальца, аднаго з прадстаўнікоў Фронту на сустрэчы:

- Усе пагадзіліся, што акцыю праводзіць трэба. Было дамоўлена стварыць працоўную групу з прадстаўнікоў кожнай партыі, якая вызначаць тэрміны яе правядзеньня і фармат. Пакуль мы не дамаўляліся наконт назвы акцыі й дакладнага часу яе правядзеньня. На нашу думку, адным з ключавых лёзунгаў акцыі павінна быць "Незалежнасьць!". Зьдзіўляе, што некаторыя ўдзельнікі пасьпелі публічна выдаць свае меркаваньні за вынікі агульнага паседжаньня.

- Якую пазыцыю адстойвалі прадстаўнікі Партыі БНФ?

- Акцыя мусіць быць агульнанацыянальнай, адлюстроўваць стан грамадзтва, і таму акцэнт робіцца на надзённыя балючыя пытаньні: пагроза страты дзяржаўнага сувэрэнітэту, сацыяльныя пытаньні, дэмакратызацыя. Фармат акцыі павінен быць такі, каб прыцягнуць розныя пласты насельніцтва, прыхільнікаў розных партыяў.

- Ці атрымала падтрымку пазыцыя Фронту?

- Так. Нас падтрымала абсалютная большасьць. Той жа сп. Лябедзька не пярэчыў, але ён быў супраць, каб акцыя падымала толькі пытаньне незалежнасьці (у гэтым яго падтрымалі прадстаўнікі Партыі Працы і БСДП (НГ). Аднак тое, што акцыя мусіць узьняць пытаньне незалежнасьці, пярэчаньняў не выклікала.

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка так пракамэнтаваў сустрэчу:

- Добра, што нашая прапанова, агучаная яшчэ напрыканцы жніўня, набыла такое развіцьцё. Першыя дзьве сустрэчы арганізацыйнае групы акцыі адбываліся фактычна ў рамках КРДС. Мы выступалі з прапановай, каб акцыя мела назву "За Незалежнасьць" альбо "За Незалежнасьць без дыктатуры", і тады большасьць сяброў КРДС нас падтрымала. На трэцім паседжаньні кола значна пашырылася коштам розных палітычных і грамадзкіх суб'ектаў. Гэта добрая зарука, што акцыя будзе шматстайная і шматлюдная. Разам з тым мы будзем настойваць на прысутнасьці незалежніцкага зьместу і, натуральна, слова "незалежнасьць" як ключавога ў гэтай акцыі. Хацелася б, каб падзея была ня толькі менская, а мела агульнабеларускі характар, бо ёсьць задача паказаць і самім сабе, і сьвету, што мы незалежнасьці нездамо.

Што да фармату - гэта павінна быць сьцьверджаньне нашае пазыцыі: мы баронім незалежнасьць і мы супраць дыктатуры. Няма сэнсу прасіць ад Лукашэнкі нейкае справаздачы. Гэта мы павінны трымаць справаздачу перад людзьмі, гатовымі бараніць незалежнасьць і свабоду.



## Вольфганг Берэндт: "Лукашэнку вядома штосьці пра гэтыя знікненні"

Спецыяльны дакладчык Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Вольфганг Берэндт прапаноўвае накіраваць у Мінск нядаўна створаную ў ПАСЕ спецыяльную камісію па знікненні ў Беларусі вядомых палітыкаў.

"Беларускія ўлады гавораць, што не ведаюць нічога пра лёс зніклых палітыкаў. Але мы думаем, што Лукашэнку вядома штосьці пра гэтыя знікненні. У нас ёсць звесткі, атрыманыя ад сакрэтных службаў і паліцыі, што гэтыя людзі былі забіты. Задачай нашай камісіі будзе праліць святло на ўсё гэта", -- сказаў сп. Берэндт.

Нагадаем, што 24 верасня ў Страсбургу прайшло першае пасяджэнне спецыяльнай камісіі па зніклых беларускіх палітыках, на якім яе старшынёй абраны вядомы праваабаронца, дэпутат Дзяржаўнай думы Расіі Сяргей Кавалёў.

Вольфганг Берэндт адзначыў, што сітуацыя ў Беларусі не проста не паляпшаецца, а становіцца ўсё горш, асабліва гэта тычыцца свабоды слова. Ён нагадаў пра судовыя пераследы беларускіх журналістаў і пра закрыццё некаторых газет. Паводле слоў Берэндта, уплыў незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі прыкметна паменшыўся.

"Лукашэнка хоча праклясці дарогу ў Савет Еўропы шляхам супрацьстаяння, хутчэй за ўсё ён спадзяецца, што мы не зможам гаварыць "не" заўсёды. Але тут ён памыляецца, яму прыйдзецца пайсці на многае, каб адпавядаць нашым патрабаванням", -- сказаў дакладчык ПАСЕ па Беларусі.

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Беларускі Кнігазбор

За шматвекавую гісторыю свайго існавання беларускі народ стварыў вялікую і самабытную літаратуру, адну з самых багатых у свеце. На жаль, яна ў сваім поўным аб'ёме ўсё яшчэ схавана ад нас за сямю замкамі. Сёння настаў час адамкнуць тыя замкі, вярнуць нашу культурную спадчыну, без якой мы не можам усвядоміць сябе як народ. Якраз дзеля гэтага вядомыя дзеячы навукі і літаратуры і ўтварылі прадстаўнічую арганізацыю – Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Беларускі кнігазбор», які паставіў перад сабой задачу выдаць асобнымі тамамі, пад агульнай рубрыкай усё лепшае з літаратуры, што было створана на беларускай зямлі ад самага пачатку пісьменства да нашых дзён. Гэтае ўнікальнае выданне ў яркіх мастацкіх вобразах і ў дакументальных матэрыялах раскрые перад намі ўсю тысячагадовую гісторыю Беларусі. Кнігі «Беларускага кнігазбору» будуць настольныя для кожнага беларуса, які імкнецца пазнаць сваю Бацькаўшчыну, які не хоча быць Іванамбязродзічам.

Аўтары гэтага шматтомнага серыйнага выдання - як ураджэнцы Беларусі, так і іншаземныя пісьменнікі, якія жылі на нашай зямлі і расказалі пра яе ў сваіх кнігах. Творы, напісаныя на іншаземных мовах (лацінскай, польскай, жыдоўскай і інш.) ці на старaславянскай і старабеларускай, будуць падавацца ў перакладзе на сучасную беларускую мову.

Распачаць такое маштабнае выданне ў наш нялёгкі час, вядома ж, будзе вельмі цяжка. Тут патрэбны немалыя сродкі. Але мы, беларусы, думаецца, дараслі ўжо да таго, каб годна паказаць сябе перад светам.

Заклікаем усіх свядомых беларусаў прыняць самы непасрэдны ўдзел у вяртанні нашай «прыспанай» культуры, зрабіць свой пасільны ўклад у наша нацыянальнае адраджэнне.

Звяртаемся мы і да нашых замежных сяброў. Калі вы хочаце бачыць у цэнтры Эўропы свабодны, незалежны, міралюбівы народ, памажыце яму, чым можна, вярнуць яго гістарычную памяць, гвалтоўна ад яго адабраную. Як вядома, народ без сваёй гістарычнай памяці - непрадказальны.

Мы верым, што знойдуцца людзі, калектывы, што захочуць прафінансаваць выданне. Выдадзеная на іх сродкі кніга гэтага сапраўднага дамашняга ўнівэрсітэта будзе іх важкім укладам у нашу культуру, стане іх заўсёдным гонарам і, вядома ж, самай лепшай рэкламай фірмы ці арганізацыі. Імёны фундатараў будуць выдрукаваны на самым відным месцы гэтага прэстыжнага выдання і такім чынам навечна ўпішуцца ў гісторыю нашай культуры. Выхад кожнай кнігі - у прыгожым серыйным афармленні - стане сапраўдным святам беларускага пісьменства. І самым ганаровым удзельнікам гэтага свята будзе той, хто дапамог выйсці кнізе ў свет, хто ўклаў у яе свае сродкі, стаўшы такім чынам у пэўнай ступені яе гаспадаром. У Доме літаратара плануецца наладжваць прэм'еры кожнай кнігі «Беларускага кнігазбору» з паказам урачыстасці па тэлебачанні, з асвятленнем яе ва ўсіх сродках масавай інфармацыі…

******************************************

Калі ласка, не забывыйце
Пераслаць грашовую ахвяру на
Выдавецкі фонд газэты…
Шукаем новых чытачоў і прыхільніуаў!

# БЫЦЬ МЕНШАСЬЦЮ НЯ ЁСЬЦЬ ЛЁГКА

***размова з др. Славамірам ЛАДЗІНЬСКІМ, экспэртам па тэме нацыянальных меншасьцяў з факультэту сацыялёгіі варшаўскага ўнівэрсытэту***

**Ці наогул можна гаварыць, што ў Эўропе існуе нейкая сыстэма аховы правоў нацыянальных меншасьцяў**

***Д-р Славамір ЛАДЗІНЬСКІ:*** Напэўна можна гаварыць, што існуе эўрапэйская сыстэма аховы нацыянальных меншасьцяў. Можна хіба нават сказаць, што Эўропа зьяўляецца адзіным кантынэнтам, на якім ахова нацыянальных меншасьцяў мае ня толькі палітычны ці маральны, але й юрыдычны характар.

І, як мне здаецца, фундамантам гэтай сыстэмы зьяўляецца Асноўная Канвэнцыя Рады Эўропы аб Ахове Нацыянальных Меншасьцяў, якая ўзьнікла ў палове 90. гадоў (1 лютага 1995 году), а пачала абавязваць 1 лютага 1998 году. Што цікавае, Асноўаня Канвэнцыя была прынятая ў атмасфэры нейкага кампрамісу, як элемэнт г. зв. „мяккага права", значыць, такога, якое мае характар - хутчэй за ўсё - палітычных абавязаньняў, чым юрыдычных патрабаваньняў. Сёньня - з увагі на своеасаблівы кантрольны мэханізм - мае яна большую сілу, чым на пачатку прадугледжвалася. Гэта Асноўная Канвэнцыя вызначае сёньня палітычны й юрыдычны стандарт аховы нацыянальных і этнічных меншасьцяў.

Варта дадаць, што Польшча Асноўную Канвэнцыю ратыфікавала 20 сьнежня 2000 году й цяпер таксама знаходзімся сярод тых дзяржаваў, у якіх яна абавязвае

**Вы згадалі пра кантрольны інструмант. Як можна кантраляваць рэалізацыю запісаў Асноўнай Канвэнцыі**

***Д-р Славамір ЛАДЗІНЬСКІ:*** Асноўная Канвэнцыя Рады Эўропы аб Ахове Нацыянальных Меншасьцяў зьяўляецца інструмантам, які - хутчэй за ўсё - прымяняецца ў адносінах да дзяржаўных уладаў, а не да самых меншасьцяў. Гэта ўлады паасобных дзяржаваў забавязваюцца, што будуць рабіць „так і так", а часьцей нават забавязваюцца, што нечага рабіць не будуць.

Кантрольным мэханізмам зьяўляюцца рапарты аб рэалізацыі Канвэнцыі, якія рыхтуюць улады паасобных краінаў-падпісантаў. Першы рапарт улады павінны падрыхтаваць на працягу году ад ратыфікацыі канвэнцыі. Пазьней гэта мяняецца на 5-гадовы цыкль.

На падставе запісаў Асноўнай Канвэнцыі Рады Эўропы аб Ахове Нацыянальных Меншасьцяў паклікаецца Дарадчы Камітэт, заданьнем якога зьяўляецца правядзеньне аналізу гэтых рапартаў. Дарадчы Камітэт можа рапарт прыняць без аніякіх засьцярогаў альбо вырашыць, што трэба напр. замовіць контр-рапарт у нейкай няўрадавай арганізацыі, якая займаецца правамі нацыянальных меншасьцяў. Дарадчы Камітэт можа таксама выслаць у дадзеную краіну, якая склала рапарт, сваіх спэцыялістаў, каб на месцы пераканацца, як ажыцьцяўляюцца там запісы Асноўнай Канвэнцыі.

Спачатку дыскусія над рапартам адбываецца - так-бы мовіць - за закрытымі дзьвярыма, але калі ўлады нейкай краіны ня хочуць супрацоўнічаць з Дарадчым Камітэтам і не пагаджаюцца з засьцярогамі зь яго боку, тады перадаецца гэта да публічнага ведама.

Крытыкі Асноўнай Канвэнцыі аб Ахове Нацыянальных Меншасьцяў гавораць, што гэты кантрольны мэханізм слабы. Але гісторыя выкарыстоўваньня гэтага інструманту паказвае, што мае ён намнога большае значэньне, чым прадугледжвалася на пачатку.

Трэба тут таксама сказаць, што час ад часу даходзіць да такіх сытуацыяў, калі суседнія дзяржавы выкарыстоўваюць гэты інструмант супраць сябе. Гэтак было ў выпадку Вэнгрыі й Славаччыны. Аднак у нашым рэгіёне Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы найчасьцейшыя закіды датычыліся сытуацыі Цыганоў.

Вяртаючыся да рапартаў, то першы зь іх мае характар справаздачы. Улады пералічваюць юрыдычныя акты, у якіх гаворыцца аб правах нацыянальных меншасьцяў і паказваюць, што гэтыя ўнутранныя правілы згодныя з Асноўнай Канвэнцыяй. Пералічваюць таксама недахопы заканадаўства ды пішуць пра палітыку дзяржавы ў адносінах да меншасьцяў.

Польшча такі рапарт ужо падрыхтавала, і сапраўды знайшлося там усё тое, пра што я толькі што сказаў.

Калі гаварыць пра польскі рапарт аб рэалізацыі Асноўнай Канвэнцыі, то відаць зь яго, што польскае заканадаўства не да канца згоднае зь яе пастановамі. Ёсьць у Канвэнцыі такія фармулёўкі, якія не знаходзяць адлюстраваньня ў польскім заканадаўстве. Маю тут на думцы перш за ўсё дзьве рэчы. Па-першае, моўныя правы, якія тычацца двухмоўных напісаў ці магчымасьці карыстаньня мовай меншасьці як дапаможнай у кантактах з чыноўнікамі. І другое, чаго не хапае ў нашым заканадаўстве, гэта адсутнасьць нейкіх антыдыскрымінацыйных запісаў. Маю тут на думцы, напрыклад, забарону асыміляцыйных дзеяньняў з боку ўладаў на тэрыторыі, на якой пражываюць нацыянальныя меншасьці. У сфэры адукацыі - нідзе не гаворыцца пра неабходнасьць падрыхтоўкі настаўнікаў ці друкаваньня падручнікаў. Вядома, ёсьць у нас такога тыпу запісы, але знаходзяцца яны ў нейкіх міністэрыяльных распараджэньнях, а не ў законах.

Безумоўна, аднак праблемай застаецца пытаньне двухмоўя, якое выклікае эмоцыі па абодвух баках, і я мяркую, што гэтыя эмоцыі яшчэ доўгі час будуць існаваць

**Якія іншыя дакуманты, апрача Асноўнай Канвэнцыі, ствараюць эўрапэйскую сыстэму аховы правоў нацыянальных меншасьцяў**

***Д-р Славамір ЛАДЗІНЬСКІ:*** Можна сказаць, што эўрапэйскія ўстановы ў нейкім сэнсе падзяліліся паміж сабой кампэтэнцыямі.

Выглядае гэта так, што Рада Эўропы ў нейкай ступені вызначае юрыдычны стандарт. Узяла яна на сябе ахову правоў чалавека ды ўсю юрыдычную сфэру, зьвязаную з грамадзянскімі правамі.

Арганізацыя Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе ўзяла на сябе справы прэвэнцыйнай дыпляматыі, супрацьдзеяньня канфліктам і палітычнага вырашаньня канфліктаў.

У сваю чаргу Эўразьвяз, калі можна гаварыць у гэтым сэнсе пра супрацоўніцтва гэтых трох установаў, узяў на сябе падтрымку моваў нацыянальных меншасьцяў ды дапамогу этнічным групам, сытуацыя якіх зьяўляецца не найлепшай. У васноўным датычыць гэта цыганскай меншасьці.

У сваю чаргу, калі гаварыць пра эўрапэйскія дакуманты, якія датычаць правоў нацыянальных меншасьцяў, то напэўна важнымі зьяўляюцца фрагманты, прысьвечаныя меншасьцям з капенгаскіх пагадненьняў у справе людзкога значэньня КБСЭ, значыць, тады яшчэ Канфэрэнцыі па Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе з чэрвеня 1990 году. Там фактычна вызначаўся палітычны стандар аховы нацыянальных меншасьцяў у Эўропе, які пазьней у пэўным сэнсе знайшоўся і ў Асноўнай Канвэнцыі.

Важнымі дакумантамі зьяўляюцца таксама прынятыя у 1999 і 2000 гадох пастановы Эўразьвязу. Быў тады прыняты антыдыскрымінацыйны пакет, які скадаецца з двух дырэктываў Рады Зьвязу. А „дырэктыва" абазначае, што Польшча будзе прымушаная прыняць гэта ўсё без аніякіх дыскусіяў.

Першая дырэктыва датычыць забароны дыскрымінацыі на працы. Другая - забароны дыскрымінацыі па расавых, этнічных ці рэлігійных прычынах у якой колечы сфэры грамадзкага жыцьця. Да гэтых дырэктываў трэба дадаць яшчэ супольнае становішча дзяржаваў Эўразьвязу ў справе змаганьня з расізмам і супрацьдзеяньня дыскрымінацыі ды 6-гадовую праграму ажыцьцяўленьня гэтых пастановаў.

З эўрапэйскай пэрспэктывы, шлях у аб'яднаную Эўропу - прынамсі, калі гаварыць пра нацыянальныя меншасьці - напэўна вядзе праз Раду Эўропы. Кожная краіна, якая хоча апынуцца ў гэтай аб'яднанай структуры, мусіць ратыфікаваць Асноўную Канвэнцыю й давесьці да вырашэньня - калі такія існуюць - усіх канфліктаў на нацыянальным фоне. А пазьней разьвіваць і ажыцьцяўляць тое, што ў зьвязаўскім заканадаўстве датычыць антыдыскрымінацыйных дзеяньняў.

**Як далёка яшчэ польскаму заканадаўству, якое датычыць правоў нацыянальных меншасьцяў, да эўрапэйскіх стандартаў**

***Д-р Славамір ЛАДЗІНЬСКІ:*** Вельмі цяжка адказаць на гэтае пытаньне адназначна. Я-б сказаў, што нашае заканадаўства ёсьць зусім нядрэннае. Аднак, з пункту гледжаньня гэтых эўрапэйскіх стандартаў, не хапае ў ім вырашэньня важнае справы, якая выклікае найбольш эмоцыяў. Я маю тут на думцы двухмоўе. Пры чым варта дадаць, што двухмоўе, дзе-б яно не ўводзілася, заўсёды выклікала эмоцыі.

Двухмоўе, безумоўна, важнае, але трэба памятаць, што там - дзе яно зараз абавязвае, на тэрыторыях, на якіх пражываюць нацыянальныя меншасьці - да гэтага стандарту даходзілі на

працягу нейкага часу.

Вядома, юрыдычныя акты вельмі важныя, але намнога важнейшай зьяўляецца практыка. Я маю тут на ўвазе тое, як дзяржаўная адміністрацыя ажыцьцяўляе пастановы паасобных законаў і наколькі дапамагае нацыянальным меншасьцям у разьвіцьці іхнае культуры, а таксама наколькі сільнымі зьяўляюцца нацыянальныя меншасьці.

Вось, возьмем хаця-б праблемы, зьвязаныя зь фінансаваньнем культуры нацыянальных меншасьцяў, а з гэтым бывае па-рознаму...

Словам, быць меншасьцю дзе-небудзь, а асабліва ў Польшчы, краіне даволі аднароднай у нацыянальным пляне, дзе відавочнай зьяўляецца дамінацыя аднае культуры, ня ёсьць лёгка.

Дзякую за размову. (Камунікат)

*****************************************************

# Бязмоўная Беларусь

**Беларусь – прыгожы і самабытны край, які знаходзіцца ў цэнтры Еўропы. Таму ён заўсёды прываблівау да сябе чужынцаў. Яны імкнуліся далучыць яго не толькі ваеннымі захопамі, але і дыпламатычнымі хітрыкамі, а таксама шляхам асіміляцыі, так званай моўнай акупацыяй**

Дзеля гэтага спачатку ў Рэчы Паспалітай, а потым і ў царскай Расіі мова карэннага насельніцтва Беларусі афіцыйна была забаронена, разбуралася, знішчалася, беларусаў рабілі палякамі і рускімі. Гэтаму, на жаль, садзейнічалі касцёл і царква. У выніку Беларусь станавілася эканамічным і культурным донарам для суседніх краін. Успомнім польскага паэта Адама Міцкевіча і рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага, карані якіх — на беларускай зямлі У 90-я гады, калі Беларусь стала самастойнай дзяржавай, назіраўся сапраўдны ўздым, росквіт беларускай мовы. Яна набыла статус дзяржаўнай, незвычайна хутка пашыралася ў школах, дзіцячых садках. У той час мы разам з Мікалаем Іванавічам Ракевічам — сапраўдным сябрам Адраджэння — не раз і не два выступалі перад бацькамі школьнікаў Слоніма, агітавалі за тое, каб іхнія дзеці пазнавалі свет і навуку, вучыліся на беларускай мове. Памятаю, з якой цікавасцю, увагай слухалі яны нас. Недарэчных пытанняў "а чаму?" не задавалі. Іх толькі палохала адно: ці не з'явіцца беларусізацыя, як гэта ўжо было ў 20-я гады 20 стагоддзя, нейкай часовай кампаніяй? Нават рускія па нацыянальнасці пагаджаліся, што тут, у Беларусі, іхнія дзеці павінны вучыцца не на польскай і не на рускай, а менавіта на беларускай мове. Калі не памыляюся, ва ўсіх школах Слоніма, акрамя пятай, быў адкрыты шэраг беларускамоўных класаў. Вельмі сур'ёзна ўзяліся за гэтую справу ў чацвёртай сярэдняй школе, дзе дырэктарам працаваў Яфімчык Уладзімір Фёдаравіч. Як грыбы пасля жажджу, раслі, з'яўляліся беларускамоўныя групы ў дзіцячых садках. Усё ішло да таго, што пераважная большасць школ і садкоў стануць беларускамоўнымі. Бацькі шчыра віталі беларусізацыю, яны радаваліся таму, што іхнія дзеці вяртаюцца да сваіх вытокаў. Прыходзіцца адзначаць, што падобную падтрымку мы не заўсёды знаходзілі сярод настаўнікаў, здавалася б, найбольш перадавой, найбольш культурнай часткі нашага грамадства. Як відаць, многія з іх звыкліся з рускамоўным асяроддзем і страшыліся пераходзіць у іншае, беларускамоўнае. Пасля ганебнага для свядомых беларусаў рэферэндуму (1996 год) і прэзідэнтскага ўказа пра дапаўненні ў "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" (1998 год) іхнімі рукамі чыноўнікі рознага рангу сталі знішчаць беларускамоўнае навучанне і выхаванне ў школах і садках, што ў нашым горадзе неўзабаве паспяхова было здзейснена. Сёння стан з беларускай мовай на Беларусі пераважае ці не самыя горшыя, самыя змрочныя часы, ён катастрафічны. Вясковыя беларускія жанчыны — носьбіты народнай мовы — адыходзяць у нябыт, а ўвесь беларускі люд ахапіла трасянка, якая, калі так можна сказаць, стала адной з дзяржаўных моў. На ёй размаўляе не толькі пераважная большасць прэзідэнцкай вертыкалі, яе можна пачуць у парламенце, на вуліцы, на тэлебачанні, у судзе і г. д. Цяперашняя трасянка адрозніваецца ад ранейшай, савецкай. Калі аснову савецкай трасянкі складалі беларускія словы, да якіх дабаўляліся рускія з выразным беларускім вымаўленнем, дык за гэты час яна стала амаль поўнасцю рускай, перамешанай асобнымі беларускімі словамі і з характэрным беларускім вымаўленнем. Што ж, мы маем няшчасце назіраць поўную русіфікацыю талерантнага беларускага народа, які паступова страчвае такі важны інстынкт як інстынкт самазахаванню Цяжка жыць у бязмоўнай дзяржаве, дзе хлусня называецца праўдай, а праўда хлуснёй, дзе співаюцца не толькі мужчыны, але і жанчыны, падлеткі, дзе закон як дышла: куды павярнуў, туды і выйшла.

Ня так даўно прыйшлося прысутнічаць у раённым доме культуры на адкрыцці свята ў гонар 750-годдзя Слоніма. Непрыемна ўразіла, што запрашэнне на свята мне, беларускаму літаратару, прыслалі на рускай мове. Потым дзве гадзіны слухаў, як нашы гарадскія і прыезджыя кіраўнікі раздавалі віншаванні горад на трасянцы. Ці хацеў дажыць да гэтага мой старажытны Слонім — Слонім Льва Сапегі, Міхала Агінскага, Міхала Валовіча, Іосіфа Стаброўскага, Анатоля Іверса?

Хлопцы, вясковыя хлопцы! Не сціскайце сваю душу ў гармонік, успомніце цёплы вясновы вечар, калі пахне бэз і кружыць галаву, успомніце туман, што паволі плыве над балотам, успомніце маці, якая кліча вас у хату. Успомніце і падтрымайце маці Беларусь, не дайце ёй загінуць у халодных сутарэннях небыцця.

Тым не менш, у Слоніме ёсць людзі, якія думаюць і разважаюць па-сучаснаму. Яны падтрымлівалі і стараюцца падтрымаць намаганні слонімцаў, накіраваныя на Адраджэнне. Гэта і былы дырэктар нафтабазы Міхась Салавей, і цяперашні яе кіраўнік Пётр Турок, дырэктар вінаробчага завода Міхаіл Акулік, дырэктар мясакамбіната Алег Бярдула, прадпрымальнікі Раман Гіль, Генадзь Бабошкін, Раман Мамедаў, Уладзімір Янушэвіч і іншыя. У свой час нямала зрабіў для адраджэння даўніх святаў , традыцый, самабытнай культуры Анатоль Цярэнін. Усе вышэй названыя слонімцы па свайму характару і тэмпераменту, напэўна, розныя, але ўсіх іх аб'ядНала неабыякавасць. Нас ратуе і тое, што беларуская зямля з яе незвычайнай прыродай, цудоўнымі, мяккімі краявідамі нараджае народ-лірнік, з якога бесперапынна вылучаюцца людзі-творцы з глыбокім пачуццём адданасці свайму роднаму куту, з нацыянальнай душой і сэрцам, цесна прывязанымі да родных каранёў. Верыцца: нягледзячы на цяжкасці, нацыянальна свядомая частка насельніцтва пранясе беларускую мову праз палітычныя буры аб'яднанняў, камуністычную настальгію і глабалізацыю, нармалізуе ў краіне моўнае жыццё, каб нашы нашчадкі былі ўдзячны нам за тое, што мы не далі згінуць беларускай мове, а разам з ёю дзяржаве і ўсёй беларускай нацыі.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## МОЛАДЗЬ З ПОСТСАВЕЦКІХ КРАІНАЎ УСХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ СТВАРЫЛА АНТЫІМПЭРСКІ АЛЬЯНС

Моладзевыя правацэнтрысцкія арганізацыі зь сямі краінаў Усходняй Эўропы стварылі альянс у абарону незалежнасьці сваіх дзяржаваў ад імпэрыялістычных памкненьняў кіраўніцтва Расеі. Пра стварэньне гэтага аб'яднаньня сёньня было афіцыйна абвешчана ў Менску.

У альянс увайшлі моладзевыя арганізацыі хрысьціянска-дэмакратычных, народных і кансэрватыўных партыяў Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі, Украіны, Малдовы й Грузіі. Беларусь у альянсе прадстаўленая Маладым Фронтам.

Пачатак гэтага альянсу быў пакладзены 21 жніўня сёлета ў латвійскім горадзе Вэнтсьпілсе, дзе моладзевыя арганізацыі з краінаў Балтыі ды Ўкраіны прынялі рэзалюцыю, у якой асуджалі спробы Расеі анэксаваць Беларусь. А нядаўна ў Вільні да іх далучыліся моладзевыя арганізацыі з Малдовы і Грузіі, стварыўшы такім чынам моладзевы антыімпэрскі альянс.

Гаворыць адзін з ініцыятараў стварэньня альянсу, намесьнік старшыні Маладога Фронту Сяржук Лісічонак:

(Лісічонак:) "Расея цяпер актывізавала свае імпэрскія амбіцыі, зноў пачала вяртацца да свайго імпэрскага статусу. І гэта не магло ня выклікаць абурэньня ў ва ўсіх тых краінах, якія атрымалі незалежнасьць з развалам Савецкага Саюзу. І мы былі вельмі радыя, што і прыбалты, і Ўкраіна, Малдова, Грузія падтрымліваюць нас, беларусаў, у імкненьні абмежаваць імпэрыялістычныя амбіцыі Расеі".

Невыпадкова да гэтага моладзевага альянсу далучылася Грузія. Пасьля вядомых заяваў прэзыдэнта Расеі Ўладзімера Пуціна пра магчымасьць правядзеньня на тэрыторыі Грузіі вайсковай апэрацыі супраць чачэнскіх партызанаў, грузіны ўсур'ёз пачалі рыхтавацца да вайны.

Лідэр моладзевай фракцыі Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Грузіі Георгі Патарыдзэ, які сёньня спэцыяльна прыехаў у Менск на прэзэнтацыю альянсу, лічыць, што пагроза незалежнасьці ягонай краіны з боку Расеі надзвычай вялікая. Спадар Патарыдзэ гаворыць, што падобная пагроза існуе і для іншых дзяржаваў:

(Патарыдзэ:) "Я лічу, што расейскі бок рыхтуецца да акупацыі Беларусі. І ёсьць факты таго, як паступіла Расея з былымі краінамі Савецкага Саюзу. Можна ўзгадаць пра Малдову й Прыднястроўе, пра Ўкраіну й Крым, пра Абхазію і г.зв. Паўднёвую Асецію. Гэта ж усе тыя гарачыя кропкі, якія стварыла Расея дзеля таго, каб падтрымаць маленькія рэжымы. Каб пасьля ўвайсьці на тэрыторыю сувэрэннай дзяржавы дзеля абароны "маленькага брацкага народу".

Грузінскі нацыянал-дэмакрат спадзяецца на дапамогу з боку беларусаў ды іншых сябраў альянсу, а таксама гаворыць, што грузіны заўсёды гатовыя правесьці акцыі ў абарону незалежнасьці іншых дзяржаваў.

Лідэр Маладога Фронту Павал Севярынец гаворыць, што акцыі ў абарону Грузіі будуць арганізаваныя адразу ж, як толькі першы расейскі салдат увойдзе ў Панкіскую цясьніну:

(Севярынец:) "Я думаю, што ў рамках вось гэтага блёку "Ўсходнеэўрапейскія хрысьціянскія дэмакраты супраць расейскай імпэрыялістычнай агрэсіі" будуць супольныя акцыі паралельна эскалацыі расейскай агрэсіі. Калі расейскія войскі ўвойдуць у Панкісі, я думаю, што ў той жа дзень зьявяцца пікеты каля расейскай амбасады ня толькі ў Менску, але і ў сталіцах балтыйскіх дзяржаваў, і ва Ўкраіне, і ў Малдове".

Лідэр Маладога Фронту таксама паведаміў, што актывісты ягонай арганізацыі плянуюць правесьці ў кастрычніку шэраг вулічных акцыяў у абарону незалежнасьці Беларусі.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## У ЛІСТАПАДЗЕ Ў МЕНСКУ ПРОЙДЗЕ АКЦЫЯ Ў АБАРОНУ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

У Менску створаны аргкамітэт па правядзеньні масавай акцыі апазыцыі пад назваю "Беларусь, Дэмакратыя, Дабрабыт". Арганізатары спадзяюцца вывесьці на вуліцы вялікую колькасьць людзей, каб запатрабаваць адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі.

У аргкамітэт акцыі ўвайшлі прадстаўнікі амаль усіх апазыцыйных партыяў, а таксама Маладога Фронту, Моладзевага хрысьціянска-сацыяльнага саюзу й Хартыі-97. Не прысутнічалі толькі прадстаўнікі БСДП "Народная грамада". Лідэр гэтай партыі Мікола Статкевіч гаворыць, што на паседжаньне аргкамітэту іх ніхто не запрашаў.

Усе ўдзельнікі сёньняшняга паседжаньня пагадзіліся, што сёлетняй восеньню апазыцыйныя сілы павінны правесьці адну, але масавую й эфэктыўную вулічную акцыю. Яе вырашылі правесьці ў сярэдзіне лістападу. Канкрэтная дата яшчэ ня вызначаная, але мэты акцыі ўжо абазначаныя. Гаворыць лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька:

"Галоўная мэта, па-першае, гэта супольныя дзеяньні палітычнай апазыцыі, а па-другое – акцыя павінна прадэманстраваць, што Беларусь застаецца Беларусьсю – незалежнай дзяржавай. Што палітыка, якую праводзіць урад і Лукашэнка – гэта абсалютнае банкруцтва, і з такімі паказьнікамі трэба думаць не пра наступны рэфэрэндум і трэці тэрмін на пасадзе кіраўніка Беларусі, а пра палітычную адстаўку".

Гэта будуць лёзунгі, якія будуць улічваць настроі й надзеі і прадпрымальнікаў, і настаўнікаў, і рабочых, і тых людзей, каму баліць сэрца за Беларусь. І тых, хто хоча, каб у краіне праводзілася новая эканамічная, зьнешняя й унутраная палітыка".

Першымі ідэю правядзеньня такой акцыі ўвосень агучылі сябры сойму БНФ. Зь неабходнасьцю шэсьця й мітынгу пагадзіліся амаль усе апазыцыйныя партыі, хаця ў іншых пытаньнях у апазыцыі няма такога адзінства. Анатоль Лябедзька тлумачыць гэта тым, што амаль усе прадстаўнікі апазыцыі разумеюць неабходнасьць правядзеньня адной, добра падрыхтаванай акцыі.

Арганізатары зьбіраюцца правесьці гэтае мерапрыемства ў цэнтры Менску – незалежна ад таго, дадуць улады дазвол на яго правядзеньне ці не.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## АМБАСАДАР ЗША Ў АБСЭ: "БЕЛАРУСКІ РЭЖЫМ АДВЯРНУЎСЯ АД ГЭТАЙ АРГАНІЗАЦЫІ. СТАНОВІШЧА З ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ ПРАЦЯГВАЕ ПАГАРШАЦЦА"

Амбасадар ЗША ў АБСЭ Стывэн Мінікес, рэагуючы на выступ прадстаўніка Эўразьвязу Хавіера Саляны, зрабіў чарговую заяву пра Беларусь.

Зьвяртаючыся да прадстаўніка Эўрапейскага Зьвязу Хавіера Саляны пасьля ягонай прамовы на паседжаньні Сталае рады АБСЭ, амэрыканскі амбасадар Стывэн Мінікес заявіў:

"У Беларусі АБСЭ сутыкаецца зь цяжкім выклікам – у той час, калі мы спрабуем разьвязаць пытаньні наконт будучай дзейнасьці нашае Кансультацыйна-назіральнае групы. У рамках АБСЭ існуе згода, якая пераважае, наконт таго, што КНГ можа й мусіць рабіць важны ўнёсак у разьвіцьцё дэмакратычных інстытутаў у Беларусі ды заканчэньне беларускае самаізаляцыі, якая ўсё паглыбляецца ў міжнароднай супольнасьці", – заявіў амбасадар Мінікес.

Ён таксама зазначыў: "Аднак беларускі рэжым адвярнуўся ад добрых намераў гэтай арганізацыі ды прадухіліў разьвязаньне праблемы. Ягонае абыходжаньне з правамі чалавека працягвае пагаршацца. Зразумела, што АБСЭ ды Эўразьвяз падзяляюць адну й тую ж надзею наконт Беларусі, і мы цэнім істотную падтрымку з боку дзяржаваў-сяброў Эўразьвязу, якую яны ўжо аказалі ў справе КНГ АБСЭ.

Я лічу, што больш скаардынаваныя, калектыўныя намаганьні АБСЭ ды Эўразьвязу канструктыўна працаваць зь Беларусьсю дзеля забесьпячэньня вяртаньня КНГ маглі б прапанаваць Беларусі лепшы спадзеў на будучае дэмакратычнае разьвіцьцё, рэформы й канец ёю ж створанай ізаляцыі", – заявіў Стывэн Мінікес, амбасадар ЗША ў АБСЭ...

Сяргей ЗАКОННІКАЎ

# Пра "шчырасць", якая пахне тлом

Кнігу, якая мае назву "Шчыра, як на духу..." я браў у рукі з асаблівай зацікаўленасцю. Само па сабе гэтае выданне -- не звыш арыгінальнае. Аналагічныя кнігі даўно ўжо выпускаюцца ў многіх краінах свету і карыстаюцца павышаным чытацкім попытам. Некаторыя з іх мне даводзілася бачыць і гартаць. Аднак жа тут, пад вокладкай, якая, дарэчы, зроблена даволі элегантна, з густам, і дакладна дапасавана да зместу кнігі, схаваны нейкія беларускія таямніцы, нейкія нашы шчырасць і праўда. Канешне ж, гэта прыцягвае.

Але... Быццам токам б'е, калі чытаеш адказы некаторых вядомых людзей на пытанне "У чым, на вашу думку, нацыянальная ідэя Беларусі". Вось іх разуменне.

"Еднасць Беларусі з Расіяй" -- "у аб'яднанні з Расіяй". "магутная, адзіная, раўнапраўная дзяржава -- Беларусь, Расія, Украіна -- краіна з квітнеючай эканомікай і духоўнай культурай!" (?!).

Адкінем убок сумбурную эклектыку і мысліцельную неахайнасць падобных сцвярджэнняў. Удумаемся ў сам сэнс. Пытанне ж задаецца прамое і недвухсэнсоўнае, і ключавое слова ў ім -- нацыянальная!

Нейкім чынам можна зразумець выхадцаў з Расіі, рускіх па нацыянальнасці (гаворыць кроў!), хоць і тут, як кажуць, ёсць вя-лі-ка-е пытанне. Беларусь на ўсё жыццё прытуліла іх, дала магчымасці для раскрыцця таленту, ушанавала, уганаравала высокімі нацыянальнымі званнямі, і за доўгі час, жывучы ў гэтым народзе, трэба было б ужо зразумець, што і беларусы -- нацыя, што і яны маюць права на самавызначэнне, на незалежную, суверэнную дзяржаву.

Але як дзіка, кашчунна гучаць падобныя выказванні з вуснаў саміх беларусаў, ды не абы якіх, а таленавітых творцаў, інтэлектуалаў! Калі і яны не здолелі да сівога веку ўцяміць, зразумець сутнасць нацыянальнай ідэі Беларусі, то што ўжо тады казаць пра астатніх. Бо галава вясковай бабулькі з Чэрыкаўскага, Лёзненскага або Мазырскага раёнаў, якая і ў мове, і ў быце, традыцыях -- глыбінная беларуска, занята ўсё ж не нацыянальнай ідэяй, а тым, як дагледзець свой гародчык, свінчо, курэй, кошку. Бо рэпрадуктар ці тэлевізар (калі ён ёсць!) у яе хаце з ранку да ночы далдоніць пра тое, што без Расіі, без аб'яднання з ёй у саюзную дзяржаву мы загінем. І куды той бабульцы падзецца, яна на ўсё згодная.

У вялікай сваёй масе нашы людзі знаходзяцца пад уплывам прымітыўнай, папулісцкай, дэмагагічнай і хлуслівай, але нахабнай, татальнай, масіраванай і таму дзейснай афіцыйнай прапаганды. Як беларускай -- прарасійскай, так і расійскай -- праімперскай. Многім не хапае элементарнай адукаванасці, дасведчанасці, умення самастойна аналізаваць, думаць перад тым, як зрабіць нейкі вывад або выбар, бракуе палітычнай культуры і волі.

У той ці іншай ступені насельнікі Беларусі, прынамсі, прадстаўнікі старэйшых пакаленняў, дасюль яшчэ застаюцца савецкімі людзьмі. Відаць, так будзе і да смерці. Мы і сёння наіўна верым, што не самі, а нехта іншы павінен клапаціцца пра наш лёс і лёс нашых дзяцей, унукаў і праўнукаў. У беларусаў здаўна прыжыўся такі выраз: "Мы -- людзі маленькія, хай думае за нас начальства!" Гэтымі словамі мы прыкрываем, як і раней, свой нацыянальны нігілізм, бытавую і грамадзянскую ляноту, абыякавасць, непрыстасаванасць да зменлівых рэалій жыцця. У нас шмат енку пра горкую долю, а канкрэтных намаганняў, каб змяніць яе ў лепшы бок, няма. Мы жывем, як на вакзале, усё нечага чакаем. Гэтае чаканне зацягнулася на цэлае стагоддзе.

Я часта задумваюся: "Чаму ж наша сённяшняе жыццё такое нягеглае і бязладнае?". І прыходжу да вываду: "А таму, што ў ім няма шчырасці, праўды і даверу". Прыглядзьцеся, калі ласка: улада хлусіць народу, народ, загнаны ў кут жабрачага існавання, спрабуе, як умее, падмануць уладу, бацькі хлусяць дзецям, дзеці -- бацькам і г.д. Паўсюль хлуслівыя словы, хлуслівыя абяцанні, хлуслівыя ўсмешкі, хлуслівыя абдымкі.

Гэта ў цывілізаваных краінах не трэба складаць дамовы на паперы. Само слова там -- надзейны дакумент. Паабяцаў -- зрабіў!

У нас жа чалавек гаворыць, запэўнівае, гледзячы табе ў ясныя вочы такімі ж не менш яснымі вачыма, і ўжо ў гэтую хвіліну выдатна ведае, што не зробіць тое, што абяцае.

У час вэрхалу "перабудовы" маладзенькага, слабенькага коніка дэмакратыі і рынкавай эканомікі асядлалі старыя, наменклатурныя "ваўкі" і новыя, яшчэ больш нахабныя і зубастыя, вершнікі-папулісты. Яны і цяпер паганяюць яго -- узмакрэлага, змучанага, галоднага.

Палітычнае бязладдзе, эканамічны калапс у былых савецкіх рэспубліках якраз і звязаны з тым, што тут ўладныя структуры не маюць пэўнасці ў выбары для сваіх народаў і краін шляху далейшага палітычнага і эканамічнага развіцця, кідаюцца з адной крайнасці ў другую, а сваю непадрыхтаванасць, няўмельства кіравацъ, усе свае шматлікія памылкі апраўдваюць зноў і зноў развалам СССР і яшчэ тым, што ім перашкаджаюць "знешнія і ўнутраныя ворагі".

За апошнія пятнаццаць гадоў мы сталі сведкамі таго, як перабудовачная мітусня, недасканаласць заканадаўства, юрыдычны вакуум дазволілі новаспечаным "менеджэрам" стаць алігархамі, раскрасці агромністыя багацці былой савецкай імперыі. А з другога боку, гэты палітычны, заканадаўчы і эканамічны вэрхал нарадзіў у народных масах вялікае жаданне займець у кіраўніцтве "жалезную руку", якая навядзе парадак, будзе змагацца з карупцыяй, злачыннасцю. Такія "жалезныя рукі" і "змагары" і выявіліся ва ўсеагульным паходзе ў прэзідэнты, спікеры, прэм'ер-міністры, губернатары, вертыкальшчыкі і да т.п.

Гісторыю кожнага народа, кожнага грамадства і ў цэлым гісторыю чалавецтва ствараюць канкрэтныя людзі. Хто б што ні казаў, а роля асобы ў гісторыі -- надзвычай значная. Іншая справа, як яна сябе праяўляе -- жыццесцвярджальна альбо разбуральна. Вунь як перааралі жыццёвае поле планеты, лёсы многіх народаў, сэрцы і душы соцень мільёнаў людзей не забытыя дагэтуль Ленін, Сталін, Гітлер! Яшчэ ўнукі, праўнукі, прапраўнукі будуць расхлёбваць крывавую поліўку, якой яны шчодра накармілі нашых дзядоў, бацькоў і самі́х нас.

Сённяшнія падзеі, якія неўзабаве стануць гісторыяй, таксама справа рук канкрэтных асобаў, што знаходзяцца ва ўладзе. І цяжка паверыць у тое, што яны робяць нешта па недасведчанасці або па наіўнасці. Перад вачыма гэтых свежаспечаных кіраўнікоў -- уся гісторыя чалавецтва з яе духоўнымі і матэрыяльнымі ўзлётамі, з яе трагічнымі памылкамі і крывавымі вынікамі. І тым не менш яны, учапіўшыся за ўладу рукамі, нагамі і зубамі, зноў наступаюць на старыя граблі. Толькі, на жаль, як заўсёды, гузы на ілбе не ў кіраўнікоў, а ў простага люду. А "вяршыцелі лёсаў" пасля сваіх эксперыментаў над людзьмі нябляга ўладкуюцца або на новай цёплай і хлебнай пасадзе, або на адмысловай пенсіі, або ўцякуць са сваёй краіны на экзатычныя заморскія астравы як мага далей ад "любімага" імі народа і як мага бліжэй да накрадзеных у яго грошай. А потым паціхеньку сыдуць у "лепшы свет"... А народ зноў будзе чакаць "добрага цара".

Я пішу гэтыя шчырыя радкі, добра ўсведамляючы, што яны будуць некаму не даспадобы, могуць выклікаць гнеў і нават рэпрэсіўныя захады. Кожны мой артыкул у прэсе суправаджаецца не толькі падтрымкай шматлікіх чытачоў, але і бурнай рэакцыяй апанентаў, якім не падабаецца шчырасць.

"Мінус" шчырасці ў тым, што яна -- родная сястра праўды, і таму часта бывае вострай, калючай, непрыемнай. З гэтай прычыны шчырасць не хочуць успрымаць, а яе носьбітаў залічваюць у ворагі. Па такой завядзёнцы можна зноў, як гэта ўжо неаднаразова рабілася, аб'явіць "ворагам народа" геніяльнага Максіма Багдановіча, які сказаў яшчэ ў 1913 годзе:

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сьляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе ня пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма.
Збудзіўшыся з грознай бяды,
Ўвесь поўны сьмяротнай жуды,
Ты крыкнуць ня вольны: "Ратуйце!"
І мусіш ты "Дзякуй" крычаць.
Пачуйце-ж вы гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!

Але што ж тут непраўдзівае і на сённяшні дзень, шаноўныя беларусы: таварышы, гаспада, паны, спадары ці як там вас яшчэ?

Ёсць і другі "мінус" у шчырасці. Яна не спрацоўвае вось у гэтую хвіліну, не дае імгненнага станоўчага выніку. І віною тут сама "глеба", бо падае яна на здратаваныя страхам, хлуснёю, дэмагогіяй закамянелыя душы. Але праходзіць час, і шчырасць бярэ сваё. Успомнім памятны артыкул Зянона Пазьняка пра расійскі імперыялізм, які быў у штыкі ўспрыняты вялікай часткай беларускага грамадства. Безумоўна, як палітык, Пазьняк -- неблагі стратэг -- прайграў тады тактычна, практычна, бо пераацаніў падрыхтаванасць, гатоўнасць нашых людзей да сваёй справядлівай шчырасці пра пагрозу экспансіі з боку Расіі.

Ну, а як пачуваецца беларусам цяпер, калі прэзідэнт Расіі У.Пуцін, якому надакучыла валтузня вакол папяровага, міфічнага саюза, шчыра і прама заявіў: "Рускі і беларускі народы -- сапраўды брацкія народы. І падзяленне на дзве дзяржавы было неабгрунтаванае, шкоднае і згубнае (?!)... Мусіць быць адзіны ўрад, адзіная краіна"? А яшчэ так шчыра, так "смачна" прагучалі з ягоных вуснаў крылатыя выразы пра муху і катлеты, пра жаванне гумкі і г.д. І нарэшце апошняя сустрэча двух прэзідэнтаў, дзе адкрытым тэкстам заяўлена, што Беларусь, як незалежная, суверэнная дзяржава, ліквідуецца.

Так што з прыехалам вас, беларускія хітруны-інтэгратары! З прыехалам і цябе, браталюбны і наіўна-хітры электарат!

Беларуская "хітрасць" -- гэта прадмет асобнай гаворкі. Але і цяпер хачу зазначыць, што канчаецца яна заўсёды тым, што беларусы як ні хітруюць, як ні ганддюють самым дарагім і святым -- незалежнасцю, каб уехаць на чужым гарбе ў рай, а падманваюць толькі саміх сябе. Вось і зноў атрымалася, як кажа (дай Бог яму здароўя!) мой даўно сівелы, мудры і дасціпны дзядзька Лёня з Крычава: "Кось-кось -- і ў агглоблі!"

Пра такія аглоблі, гэта значыць, беларускія губерні ў складзе Расійскай Федэрацыі (чытай -- імперыі) даўно ўжо трындзіць экстравагантны галоўны элдэпээравец Уладзімір Жырыноўскі, альбо "Жырык", як яго паблажліва велічаюць у славянскіх народных масах. А гэты "вясёлы" палітык, як флюгер, заўсёды ведае, куды дзьме вецер, заўсёды ўлаўлівае генеральную расійскую лінію. Дзеля праведзення гэтай лініі восем гадоў сноўдаюцца з Масквы ў Мінск не толькі ён, а і іншыя палітычныя "зубры" -- Я.Прымакоў, Г.Зюганаў, Г. Селязнёў. Імперскую ідэю, перастрыгаваную на новы лад, падмацоўваюць розныя "базары", "шлягеры", "віцязі", несупынныя гастролі ў беларускіх гарадах расійскай "папсы" і нават высадкі "дэсантаў" салідных пісьменнікаў-суседзяў. Усё гэта сведчыць, што паглынанне Беларусі вельмі важнае для Расіі і ў палітычным плане -- патрэбны прыклад для іншых народаў, і ў эканамічным -- мець стабільны, падкантрольны, самы кароткі прахадны двор у Еўропу, і ў ваенным -- "отсель грозить мы будем... НАТО".

Уключаеш тэлевізар, а там на экране расійскі экс-гарант, стомлены былы змагар за дэмакратыю, хоць і пахістваецца, але захоплена і бадзёра расказвае ў Брэсцкай крэпасці байкі пра тое, што ён і дасюль застаецца дзеючым гарантам нейкай стабільнасці. І беларускі гарант падміргвае нашым ветэранам -- маўляў, ёсць яшчэ ў дзядулі порах у парахаўніцах, а тыя згодна, задаволена ківаюць галовамі.

А ў нармальнага чалавека такая "ідылія" выклікае безліч не такіх ужо і вясёлых успамінаў. І пра Белавежскае пагадненне, якое нарадзіла настальгічна-савецкі енк вакол яго, і пра непрыязнасць, пастаянныя "разборкі" паміж гэтымі двума гарантамі, і пра пустапарожнюю балбатню наконт саюза Беларусі і Расіі.

Сённяшні дзень патрабуе, як слушна сказаў прэзідэнт Расіі У.Пуцін, "цікавых ініцыятыў, новых ідэй і рашэнняў". І яны будуць. Свае слова скажуць патрыятызм народаў, нацыясцвярджальны накірунак у палітыцы абедзвюх дзяржаў, разумны прагматызм, выкарыстанне мясцовых рэсурсаў, замежных інвестыцый і стваральная праца -- у эканоміцы, справядлівыя адносіны да грамадзян -- у сацыяльнай сферы.

У развіцці стасункаў паміж Беларуссю і Расіяй таксама патрэбен разумны падыход. Кожны рэальна мыслячы чалавек выдатна разумее важнасць беларуска-расійскіх узаемаадносін. Але новае збіранне імперыі -- сапраўды згубнае. Згубнае як для Беларусі, так і для Расіі. Рана ці позна ўсе імперыі рушацца, прытым рушацца крывава, трагічна. Пакуль беларусы і расіяне нарэшце не зразумеюць, што ў нашых народаў няма іншай альтэрнатывы, іншага выйсця -- як жыць па-суседску ўзаемавыгадна, згодна і дружна, але незалежнымі, суверэннымі дзяржавамі, ніякага ладу не будзе. Беларусы і расіяне змушаны, павінны жыць толькі так. Усе іншыя варыянты, як мудра і дакладна сказана ў самай распаўсюджанай у хрысціянскім свеце малітве, -- "от лукавого".

І гэта пацвярджае сваімі адказамі на пытанне "У чым, на Вашу думку, нацыянальная ідэя Беларусі?" абсалютная большасць сааўтараў кнігі "Шчыра, як на духу...". Даем слова прадстаўнікам розных нацыянальнасцей і прафесій: акадэмік НАН Беларусі Мікалай Барысевіч: "Застацца Беларуссю", народная артыстка Беларусі Святлана Акружная: "У садружнасці з іншымі дзяржавамі захаваць сваю нацыю, сваю незалежнасць", народная артыстка Беларусі Наталля Руднева: "Гонар за сваю нацыю", народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч: "У тым, што Беларусь павінна сцвердзіць сябе ў якасці самастойнай, суверэннай дзяржавы і заняць на векі вечныя "свой пачэсны пасад між народамі", заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь Валерый Чычурын: "Незалежнасць, высокаэфектыўная вытворчасць, развіццё нацыянальнай культуры, прыстойны ўзровень жыцця людзей".

Бачыце, шаноўныя суайчыннікі, на якія глыбінныя, жыццёвыя праблемы можа вывесці, здавалася б, звычайная кніга?..

/Народная Воля/



 



# Ля калыскі Якуба Коласа

"НІВА"



Скажу праўду — інфармацыя, што будзем падарожнічаць па Коласавых і Купалавых месцах, прыгнятала. Ранейшыя візіты ў музеях гэтых класікаў хутчэй адбіралі ў мяне цікавасць да ўсяго на свеце. Не люблю, як побач літаратурнай спадчыны вісяць драўляныя бароны і андаракі.

З другога боку — люблю бываць у месцах паэтаў. Адчуць дух месца, краявід, глянуць як бачыцца свет з акна літаратара. І яшчэ адна нагода — хацелася зірнуць, як святкуецца 120 гадавіна з дня нараджэння класікаў.

* * *

І вось, раніцай, на Спаса, мы завіталі ў Акінчыцы. Мы — адборная кампанія беларусафілаў: доктар і даследчык гісторыі Лена Глагоўская, радыёжурналістка і перакладчыца беларускай літаратуры Анна Сабэцкая, настаўнік і журналіст Вячаслаў Харужы, студэнтка сацыялогіі і беларусістыкі Іаанна Тамчук, гродзеньскі паэт Юры Гумянюк, Сцяпан Свярубскі і ніжэйпадпісаная ветэранка падарожжаў па Беларусі.

На месцы даведаліся мы, што ў панядзелкі — выхадны дзень і музей не працуе. Наш шафёр Саша, які не раз прывозіў сюды турыстаў, адразу і спыніўся каля хаты загадчыцы. Чакаўшы хвілін дваццаць, разам з Зофіяй Пятроўнай Міцкевіч, паехалі мы ў хату-музей. Сапраўдная хата, дзе нарадзіўся аўтар „Новай зямлі”, не захавалася. Сучасны домік, разам з адрынай, пограбам і калодзежам з жураўлём складаюць мініяцюрны комплекс. Скансэн пабудавалі дваццаць гадоў таму, у сотую гадавіну з дня нараджэння класіка.

Уваходзім у хатку. На покуце ікона Маткі Боскай Чанстахоўскай, аздобленая ручніком.

— Ёсць падставы меркаваць, што Колас быў каталікам, — кажа Зофія Міцкевіч, у прыватнасці, жонка ўнука брата Якуба Коласа. — Прадзед Коласа, Казімір, быў уніятам. Паводле сямейнай легенды, казакі сілком навярнулі яго ў праваслаўе. Пасля Казіміраў сын Міхал ахрысціў будучага пісьменніка ў Новым Свержані. Невядома толькі, дзе хрысцілі — у царкве, касцёле ці кальвінскім зборы? І, як на злосць, прапалі дакументы.

— Перакананне, што ён „рускай веры”, выйшла ад прарасійскіх савецкіх даследчыкаў, — кажа Зофія Пятроўна.

* * *

Будучы класік, Кастусь нарадзіўся як трэцяе дзіця, пасля яго ў сямі з'явілася яшчэ дзесяцёра. У Акінчыцах жыў толькі чатыры з паловай месяца. У музеі арыгінальная калыска класіка. Амаль палову займае гліняная печ. Чужаземцы глядзяць на яе і захапляюцца:

— Што гэта за камп'ютэр? — спытала раз амбасадар Японіі.

Хаця хата з адной ізбы, адчуваецца ў ёй многа прасторы. Уражвае сваёй функцыянальнасцю. Няма тут непатрэбшчыны, лішняй мэблі, прыладаў. Пануюць натуральныя, сцішаныя колеры дрэва.

Дом стаіць у сімвалічным месцы. Ля старажытнага гасцінца „Кацярынка”. Дарога, названая ў гонар рускай імператрыцы, спалучала Пецярбург, Варшаву, Берлін, Парыж і Ватыкан. Бацька Коласа, пакуль стаў лесніком, пільнаваў гэту дарогу, браў мыта за карыстанне шляхам.

Недалёка ад дому плыве Нёман.

* * *

Сядзім за сталом у родным доме Якуба Коласа і мяркуем — наколькі музей ёсць месцам жывой інспірацыі? Ці не з'яўляецца ён яшчэ адным постсавецкім месцам для разнавідных дэлегацый? У памятнай кніжцы подпісы на шмат якіх мовах свету.

— Найбольшую колькасць наведвальнікаў складаюць школьнікі, — тлумачыць Зофія Міцкевіч. Турыстычны сезон ажыўляецца тут пры канцы і пачатку школьнага года.

— Зараз у нас адчуваецца пэўны крызіс, — адзначае загадчыца, — многім вучням не пад сілу прыехаць у музей на ўласны кошт.

Цікавасць да беларускай літаратуры хіліцца ў бок заняпаду. Гэта эфект паўсюднай асіміляцыі ў школах. У Стоўбцах (зараз Акінчыцы — частка Стоўбцаў) няма ні адной беларускай школы. У Мікалаеўшчыне, дзе імем класіка названа пачатковая школа, працуюць яшчэ беларускія класы. Сам Колас, будучы ўжо жывой легендай, часта прыязджаў на бацькаўшчыну. Дарэчы, на свой кошт прапанаваў пабудаваць школу ў Мікалаеўшчыне.

* * *

У адрыне — этнаграфічная экспазіцыя, пра якую распавядае нам Юры Міцкевіч, унук Язэпа Міцкевіча, Коласавага брата. Кросны, прылады для апрацоўкі льну, бароны.

Найцікавейшая, аднак, жывая сустрэча з прадаўжальнікамі роду пісьменніка. Спадар Юры — таленавіты расказчык і індывідуальнасць. Інфармацыі насычвае гумарам, прыводзіць цытаты з „Новай зямлі”.

Пра святкаванне 120 гадавіны даведаемся пазней. Нашу ўвагу прыцягнула поўная адсутнасць турыстычнай інфраструктуры. На месцы нараджэння аднаго з найбольш вядомых літаратараў немагчыма купіць паштоўку, кніжку ці іншы сувенір. У рукі трапляе даведнік, надрукаваны ў Маскве ў 1988 годзе на рускай мове. Колас выступае тут як слуга працоўнага народу, пясняр светлага заўтра.

Дарэмна ў музейным комплексе шукаць кавярню ці туалет.

Недахопы, у пэўным сэнсе, ратуюць родныя Коласа. Яны пакідаюць добрае ўражанне ў госця. Адчуваецца тут свойскасць, вясковую хлебасольнасць і цікаўнасць да наведвальніка. Мы як замежная „дэлегацыя” атрымалі гурбу спасаўскіх яблык.

— А ў нас таксама сям'я ў Польшчы, — адзначае пані Зофія. Нашчадкі і сваякі гэтых Міцкевічаў пражываюць у Кашаліне, Влацлаўку, Познані, Цехацінку і Чорнай-Беластоцкай. Сімпатыя да палякаў ёсць паўсюднай з'явай у беларускай правінцыі. Дарэчы, хаця мы не карысталіся перакладчыкам, усё роўна празвалі нас „замежнай дэлегацыяй”! Як прыстоіць сапраўднай дэлегацыі, пакінулі мы след у памятнай кніжцы. Тэкст прыдумаў наш паэт. „Як цудоўна ля калыскі Якуба Коласа!” — расчуліўся Юрась.

Паводле Зофіі Міцкевіч — калыска сапраўдная. Мы ацанілі гэту дэталь. А амаль ува ўсіх музеях Беларусі выстаўляюць выпадковую этнаграфію і муляж.

Ганна Кандрацюк



## А.Піанткоўскі: "У цэнтры палітыкі Пуціна стаяць эканамічныя інтарэсы Расеі"

Крэмль будзе працягваць працэс кволацечнай інтэграцыі толькі да выбараў расейскага прэзыдэнта. За гэты час стане зразумела, ці пусьціць Лукашэнка расейскі капітал у Беларусь, што й абумовіць далейшыя дзеньні Крамля. Пра гэта ў інтэрвію Рацыі заявіў кіраўнік расейскага цэнтру палітычных досьледаў Андрэй Піанткоўскі. Пакуль што Крэмль толькі папярэджвае свайго беларускага хаўрусьніка. Калі ж папярэджаньні будуць праігнараваныя, то на ўсю моц запрацуюць эканамічныя рычагі прымусу.

**RR:** - Як можа вырашыцца сытуацыя, справакаваная апошнімі заявамі Ўладзіміра Пуціна?

**А.П.** Этот фарс с объединением должен был бы закончиться раз и навсегда. Однако не сейчас - накануне выборов в России навряд ли Кремль пойдёт на разрыв отношений с Беларусью. Пока тягомотина будет продолжаться. Но недолго.

**RR:** - Чаму менавіта зараз прагучалі жорсткія заявы Ўладзіміра Пуціна?

**А.П.:** - Путина с самого начала раздражал Лукашенко лично. А кроме этого Путину надоела эта фальшивая интеграция. Уже ясно, что ни на какую серьёзную интеграцию Лукашенко никогда не пойдёт - он никогда не променяет роль диктатора и президента на губернатора. Под болтовню об интеграции Лукашенко выбивал достаточно серьёзные экономические вещи не столько для Беларуси, сколько для себя. Фактически Лукашенко обманывал российскую политическую элиту, потому что она рада была обманываться: Лукашенко знал, как поласкать россиян иллюзиями про объединение. Путин же человек без комплексов. У него нарастало раздражение: не может процесс объединения продолжаться вечно.

**RR:** - Якія чыньнікі будуць уплываць на беларуска-расейскую інтэграцыю?

**А.П.:** - Лукашенко, конечно, очень нравилась такая интеграция, потому что была масса экономических плюсов и никаких политических минусов. Он оставался во главе суверенного государства и неизвестно за что получал очень большие экономические коврижки. Думаю, что серьёзные дебаты и обсуждения сейчас перейдут исключительно в экономическую плоскость. Посмотрим, насколько долго Москва будет готова продавать Беларуси дешёвые энергоносители. Насколько Лукашенко готов допускать российский капитал к процессу приватизации крупных белорусских производств. Ну и совсем уж глобальная задача - насколько Лукашенко готов к введению единой валюты. И уж совсем понятно, что не будет никаких выборов в объединённый парламент. Все эти политические процессы затухнут, а будет продолжатся нормальный экономический торг между двумя государствами.

**RR:** - Аляксандар Лукашэнка не хавае, што не зьбіраецца пускаць у Беларусь расейскі "крымiналізаваны капітал". Наколькі Крамлю важная прысутнасьць расейскага капіталу ў Беларусі?

**А.П.:** - Очень даже. Мы живет в капиталистическом государстве. Что такое Кремль? Кремль -это, как говорят капиталисты, поставленные нами менеджеры по управлению. А кем Путин был поставлен у власти? Олигархией. И потом, у Путина сейчас излюбленный лозунг - в центре политики, в том числе и внешней, должны быть экономические интересы. На выступлении в МИДе он очень активно это озвучивал. Поэтому экономические вопросы будут очень чувствительными.

**RR:** - Тэма Беларусі ўжо неаднойчы абмяркоўвалася прэзыдэнтамі Расеі й ЗША. Ці ўплываюць зараз Злучаныя Штаты на ўзаемадачыненьні Менску й Масквы?

**А.П.:** - Я думаю, что нет. Между Россией и США идёт настолько большая игра по геополитическим и геоэкономическим вопросам, что Беларусь тут, мягко говоря, не на первом месте. Кроме того, основную озабоченность американцев вызывала даже не внутренняя политика Лукашенко (права человека, свобода слова), а перспектива объединения России и Беларуси в единое государство по варианту поглощения. Это бы воспринималось как начало восстановления СССР. Теперь эта перспектива абсолютно исключена. И мы наблюдаем, что белорусская проблематика стала интересовать американцев значительно меньше.

******************************************************

 

# Ці сапраўды нашу Беларусь чакае перадача ў склад Расеі?

**Належыць прызнаць, што падзеі апошніх дзвюх дзесяткаў гадоў моцна паўплывалі на ацэнкі Расеі, якая вядомая ў свеце своеасаблівым спосабам жыцця і ажыццяўлення ўлады. Уся гісторыя гэтай краіны сведчыць пра тое, што галоўным сэнсам існавання Расеі было падаўленне свабоды. Незалежна ад таго, выцякае свабода са старажытнасці, з родаплемянных адносінаў, ці з'яўляецца вынікам развіцця заходнееўрапейскай цывілізацыі. З канца дваццатага стагоддзя Расея, як гэта не дзіўна назіраць, не змагаецца са свабодай. Ці амаль не змагаецца, што гэтак сама неверагодна і дзіўна. Ці азначае гэта, што суверэнітэту гніў бы Беларусі Расея больш не пагражае? Як ацаніць нядаўнюю прапановай Пуціна ўвайсці ў склад Расеі?**

### Як расейскія кіраўнікі развалілі Саюз

Можна шмат казаць пра тое, што Савецкі Саюз распаўся пад ціскам праблемаў, якія не вырашаліся, а з дапамогай палітычнага насілля выводзіліся з-пад грамадскай і дзяржаўнай увагі. Аднак гістарычная неабходнасць, хаця і прабівае ўрэшце рэшт сабе дарогу, заўсёды ўвасабляецца ў дзеяннях і пазіцыях канкрэтных палітычных лідараў. Не прыдзі да вышэйшай ўлады ў 1985 годзе Міхаіл Гарбачоў, а прыдзі які-небудзь Зюганаў, Селязнёў, ці, барані Божа, Кручкоў, Пуга ды Лігачоў з Макашовым, савецкі сацыялізм доўга і напаскудзіў бы яшчэ шмат.

Цалкам верагодна, што, каб не палітыка перабудовы, распачатая Гарбачовым, гістарычны крах савецкага сацыялізму каштаваў бы народам СССР незлічоных ахвяраў, а распад СССР адбыўся б у выніку кровапралітнай вайны. Не выключана, што сусветнай, ці, як найменей, еўрапейскай, не кажучы ўжо пра грамадзянскую вайну. Не меньш верагодна, што Савецкі Саюз існаваў бы дагэтуль, з усімі сваімі "дасягненнямі": дэфіцытам прадуктаў, забаронай выязду за мяжу, палітычным пераследам іншадумцаў і да таго падобнага.

Менавіта вышэйшыя кіраўнікі сучаснай Расеі, чые паўнамоцтвы можна параўнаць з паўнамоцтвамі цароў, правялі цудадзейныя змены ў жыцці краіны. Агульны настрой народа пры гэтым заставаўся і дагэтуль застаецца скрайне кансерватыўным, традыцыйна спажывецкім у адносінах з уладай, паслухмяным і рабалепным. У гэтых умовах камуністычныя праваднікі маглі яшчэ многія і многія дзесяцігоддзі захоўваць сваю ўладу.

Пацверджаннем гэтага выступае аднаўленне сацыялізму ў адной, асобна ўзятай савецкай рэспубліцы – у Беларусі, дзе народны дух усеагульнага утрыманства выклікаў да жыцця асобу, амаль адразу названую "бацькам". Свайго бацьку, "барина", "хозяина", патрабуюць і расейцы, кінутыя дзяржавай у небяспечныя і каламутныя хвалі капіталізма і разгубленыя ад сваёй незапатрабаванасці і безабароннасці.

Савецкія нізы маглі жыць па-старому яшчэ доўга. Новага жадалі вярхі, нягледзячы на тое, што яны, вярхі, маглі доўга валадарыць пры дапамозе рэпрэсіяў і размяркавання прыбытку "кожнаму – па трошкі". Вось тут, у адносінах расейскай вышэйшай эліты да лёсу краіны, і схаванае галоўнае дзіва. Гарбачоў, Ельцын, Пуцін – усе гэтыя людзі, пераадольваючы велізарны супраціў уласнага народу, сваіх партыйных таварышаў, армейскіх і гэбісцкіх генералаў, накіравалі краіну ў супрацьлеглы ад таталітарнага камунізма бок.

Такога ў гісторыі Расеі ніколі не было. Спробы лібералізацыі здараліся і раней. Напрыклад, цар Аляксандр 11 спрабаваў даць народу свабоду. Але расейскі народ скарыстаў у выніку свабоду дзеля крадзяжу, лайдацтва і бунту. Самога цара забілі рэвалюцыянеры, а праз паўстагоддзя знішчылі і манархію разам з сям'ёй апошняга імператара. Любы расейскі кіраўнік павінен мець на ўвазе, што свабода, дараваная ягонаму народу, абавязкова вылецца ў "бессмысленный и беспощадный" бунт. Кожны расейскі кіраўнік пры гэтым разумее, што абмежаванне свабоды, палітычны ціск, наадварот, прыводзяць у Расеі да ўсталявання грамадскага парадку і развіцця эканомікі. Так ужо тут павялося здаўна.

### Сённяшняй расейскай эліце Саюз не патрэбны

Як жа да кіраўніцтва Расеяй прыходзяць такія неадпаведныя яе духу людзі? І што гэта азначае ў бліжэйшай перспектыве?

Прыход да ўлады ліберальных кіраўнікоў у Расеі адбываецца таму, што народ не ўсведамляе сябе суб'ектам палітычнага жыцця, не мае апарату выяўлення і абароны сваёй волі, а таму лёгка паддаецца маніпуляцыям і фактычна не ў стане паўплываць на выбар кіраўніцтва краіны. Кіраўнік (Генсек, Прэзідэнт) можа быць адукаваным і прыстойным ці дэспатычным і брыдкім. Усё вырашаецца шляхам пагадненняў у кіраўнічых шэрагах, альбо, як называў Крамлёўскую палітыку Чэрчыль, "барацьбой мядзведзяў пад дыванам".

Калі б расейская гісторыя рухалася традыцыйным шляхам, то за перыядам гарбачоўскай лібералізацыі павінен быў надысці перыяд дэспатыі. Пасля развалу імперыі – ваеннае збіранне земляў. Але за Гарбачовым прыйшоў Ельцын, потым Пуцін. Ніякіх рэальных дзеянняў па аднаўленні СССР ні Ельцын, ні Пуцін не зрабілі.

Гэта і выглядае самым неверагодным. Уся папярэдняя палітыка расейскіх цароў і камуністычных праваднікоў была накіравана на тое, каб захапіць беларускія землі. А вось Гарбачоў правёў суверэнізацыю савецкіх рэспублік. Ельцын падпісаў з беларускімі і украінскімі лідарамі Белавежскае пагадненне аб скасаванні СССР. Пуцін да нядаўняга часу акрамя гаварыльні пра беларуска-расейскую інтэграцыю таксама не заяўляў прэтэнзіяў на кіраванне Беларуссю.

Але ўлетку з'явілася сенсацыйная прапанова Пуціна беларусам увайсці ў склад Расеі. Ці трэба лічыць яе зменай агульнай знешнепалітычнай лініі Гарбачава-Ельцына, гістарычным паваротам, заканамерным вяртаннем Расеі да палітыкі каланізацыі і падаўлення свабоды ? Падстаў дзеля такога вываду няма.

### Расейскі адказ галоўнаму інтэгратару

Калі б Расея сапраўды жадала захапіць Беларусь, то заява Пуціна была б падмацаваная іншымі важкімі дзеяннямі, найперш ваенна-палітычнымі і эканамічнымі. Расеі прыйшлося б дамовіцца з Амерыкай, Вялікабрытаніяй, якія выступаюць гарантамі беларускага суверэнітэту, адносна згоды на далучэнне Беларусі. Нічога падобнага не адбываецца. Таму заяву Пуціна трэба ўспрымаць як тактычны крок, як адэкватную рэакцыю на палітыку, якую з сярэдзіны 90-х гадоў праводзіць адносна Расеі беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка і якая атрымала назву "інтэграцыя".

Сутнасць гэтай беларускай палітыкі надзвычай простая: атрымаць доступ да расейскіх рэсурсаў і рынкаў збыту. Гэтым яна нічым не адрозніваецца ад палітыкі Германіі, Турцыі, Кітая ці любой іншай краіны. Незвычайным на першы погляд выглядае галоўны сродак дасягнення мэты: дэманстрацыя намеру шчыльнай інтэграцыі ў палітычнай сферы. Але, калі прыгадаць, што гэткім жа спосабам выкачвання рэсурсаў і продажу сваёй прадукцыі карысталіся самыя разнастайныя краіны – Куба, Паўночная Карэя і В'етнам, Егіпет і Эфіопія ды інш., то беларуская палітыка "інтэграцыі" ўжо не выглядае нейкім асобым феноменам. Усім у свеце добра вядома, што Расея кідаецца дапамагаць любому, хто пахваліць яе палітыку і лад жыцця, а таксама асабіста "дарагога Леаніда Ільіча", Міхаіла Сяргеевіча, Барыса Мікалаевіча. Як правіла, выкачаўшы з Расеі ўсё, што магчыма, расейскія "сябры" змяняюць знешнепалітычную арыентацыю.

Словам, беларуская "інтэграцыя" – гэта не што іншае, як сучасная разнавіднасць тыповай афрыканска-лацінаамерыканскай знешепалітычнай афёры.

Магчыма, усё б так і цягнулася: беларусы гаварылі пра славянскае братэрства, расейцы качалі беларусам сваю нафту. Зрэшты, за ўсё трэба плаціць, а за інтэграцыю, як за дачыненні найбольш інтымныя – тым болей. Толькі, як гэта звычайна бывае ў інтымных дачыненнях, адносіны сапсаваліся з-за празмерных амбіцыяў аднаго з партнёраў.

Беларусы прапанавалі рускім стварыць агульную дзяржаву - Саюз. Заснаваць наднацыянальныя органы кіравання, рашэнні каторых былі б абавязковымі для Расеі. Такой спробы абмежавання свайго суверэнітэту рускія не ведалі з часоў мангола-татарскага іга. Нешта падобнае ўчынілі бальшавікі, стварыўшы саюз савецкіх рэспублік. Што з гэтага атрымалася – добра вядома. Расея апынулася на задворках цывілізацыі.

Аляксандр Рыгоравіч у выпадку рэалізацыі прапановы аб стварэнні Саюза атрымаў бы ў ім высокую пасаду і магчымасць кіраваць Расеяй. Якую палітыку праводзіць Аляксандр Рыгоравіч, усім добра вядома. Вяртацца назад, у рэжым адміністратыўнага сацыялізма і аўтакратыі, халоднай вайны з Захадам (ці нават гарачай) расейская эліта і алігархі не жадаюць. Менавіта пра гэта сведчыць захаванне паслядоўнай палітычнай лініі Гарбачоў-Ельцын-Пуцін.

Так што Пуціну міжволі прыйшлося станавіцца на абарону сучасных расейскіх каштоўнасцяў, такіх як суверэнітэт, права самастойна вырашаць свае пытанні. "Інтэграцыю" з Беларуссю Пуцін атрымаў у спадчыну ад Ельцына, які чамусьці не лічыў Лукашэнку канкурэнтам. Ельцын увогуле шмат чаго не лічыў. Новае кіраўніцтва Расеі тым і адрозніваецца, што пралічвае ўсё. Сёння, на думку Уладзіміра Уладзіміравіча і ягоных дарадцаў, прыйшоў час адказаць на настойлівае дамаганне парульць Расеяй з боку Аляксандра Рыгоравіча. Яму і адказалі, у традыцыйным для Расеі ў падобных выпадках стылю: альбо падпарадкоўвайся, альбо гуляй, як усе, па агульных правілах. З улікам таго, што Аляксандр Рыгоравіч пасягнуў на самае, што толькі ёсць у Расеі святога – на ўладу, рэакцыю ў выглядзе заявы Пуціна трэба лічыць надзвычай мяккай і далікатнай. Маглі б жа пра мачылаўку ў сарціры...

* * *

Як бачым, знешняя палітыка Расеі ад часоў Гарбачова пакуль не змяняецца, як гэта не выглядае дзіўным. А вось мэта палітыкі Аляксандра Рыгоравіча – атрымаць уладу над Расеяй - ўсё больш аддаляецца. Сам Лукашэнка неяк заявіў, што спыненне інтэграцыі азначае ягоную палітычную смерць. Калі так, то Пуцін прапануе Лукашэнку эўтаназію, хуткую і ашчадную смерць.

Думаецца, што гэта, аднак, перабольшанне. Калі ён звязвае сваё палітычнае жыццё з кар'ерай у Расеі, тады канешне, спыненне інтэграцыі – палітачная смерць. А калі яго задавальняюць маштабы Беларусі, то ён яшчэ пажывее.

**Сяргей Сноп (Pahonia)**

=================================

# Інстытут Беларусі -- мара ці рэальнасць?

Апошнім часам усё актыўней вядуцца размовы пра стварэнне на базе Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны Інстытута Беларусі -- накшталт Інстытута Гётэ, Брытанскага Савета, Інстытута ўкраіназнаўства, Інстытута Сервантэса, Польскага інстытута...

З пытаннямі карэспандэнт "Народнай волі" звярнуўся да дырэктара Цэнтра Любові УЛАДЫКОЎСКАЙ-КАНАПЛЯНІК.

-- Як Вы лічыце, Скарынаўскі цэнтр, які набыў міжнародны аўтарытэт як беларусазнаўчая ўстанова, ужо вычарпаў свой патэнцыял?

-- Хутчэй наадварот. Патэнцыял Скарынаўскага цэнтра можа выкарыстоўвацца не толькі ў навуковых, асветніцкіх мэтах, але і значна шырэй -- у агульнаграмадскіх, нацыянальных і дзяржаўных.

-- Але ж Цэнтр і без таго, апрача унікальных міждысцыплінарных даследаванняў, праводзіць вялікую асветніцкую працу -- да 18 міжнародных канферэнцый у год, выдае шмат навукова-папулярнай літаратуры...

-- Да сённяшняга дня Цэнтр фінансуецца толькі пад навукова-даследчыя праекты. У нас амаль кожны супрацоўнік даследуе цэлую навуковую праблему, а то і дзве...

Каб паўнавартасна быць такім Цэнтрам, каб рыхтаваць сабе змену, трэба мець іншы статус і адпаведна сталы механізм фінансавання.

-- А як Вы ставіцеся да таго, што трэба зарабляць самім?

-- Станоўча. Псіхалогія ўтрыманцаў непрадуктыўная. Іншая рэч, што фундаментальная навука і элітарная культура -- не заўсёды камерцыйны прадукт, які мусіць дагаджаць нявыразвітым густам. Ды і дзяржаўныя інтарэсы патрабуюць дзяржаўнага фінансавання. Скарынаўскі цэнтр як дзяржаўная ўстанова з адпаведнымі дзяржаўнымі функцыямі павінен мець адпаведную дзяржаўную падтрымку.

-- Чаму Вы лічыце, што трэба змяняць статус Цэнтра менавіта праз стварэнне на яго базе Інстытута Беларусі?

-- Таму што незалежна ад існавання Скарынаўскага цэнтра стала відавочнай неабходнасць стварэння такога інстытута, які б, выконваючы функцыі Інстытута нацыі па стварэнні інтэграванай сістэмы інфармацыі аб беларускай культуры (тут і далей -- у шырокім, ЮНЕСКАўскім разуменні культуры як сукупнасці ўласцівых грамадству прыкмет -- духоўных і матэрыяльных, інтэлектуальных і эмацыянальных, што апрача мастацкай культуры ахоплівае лад жыцця, сістэму каштоўнасцяў, традыцыі і вераванні), нёс бы адказнасць за рэалізацыю знешняй культурнай палітыкі, інфармаванне сусветнай супольнасці аб беларускай культуры, яе папулярызацыю. І, як гэта бывае ў сусветнай практыцы, услед за культурным знаёмствам актывізуецца эканамічнае, сацыяльнае, палітычнае супрацоўніцтва.

Чаму на базе Скарынаўскага цэнтра? Цэнтр мае навыкі, вопыт і аўтарытэт у культуралагічна-асветніцкай дзейнасці, каардынацыйнай і інфармацыйнай.

-- І ўсё ж: якая мэта дзейнасці Інстытута Беларусі?

-- Папулярызацыя беларускай культуры і культурнае супрацоўніцтва з іншымі краінамі (праз супрацоўніцтва з найважнейшымі культурнымі і навукова-асветнымі асяродкамі свету, беларусістамі замежных краін, асяродкамі беларускай дыяспары і інш.). Аднаўленне дзейнасці гаспадарча-разліковага летняга семінара беларускай мовы, літаратуры, культуры з удзелам замежных навукоўцаў, моладзі. Такая школа даўно працуе ў Кіеве, у Расійскай Федэрацыі іх дзве, ёсць у Брно (Чэхія), Любляне (Славенія) і інш.

Чаму гэта павінна знаходзіцца ў адных руках? Бо важна не толькі паказаць наш балет, наша выяўленчае мастацтва, народнае дойлідства, харавую культуру і г.д., але і данесці іх асаблівасці, прыкладам, праз абмеркаванне на семінарах сутнасці беларускай нацыянальнай традыцыі ў цэлым, праз тэарэтычнае, інфармацыйна-аналітычнае абагульненне ўсяго, што складае славу Беларусі. Пры такіх падыходах мы здолеем не толькі распаўсюдзіць веды пра Беларусь і стварыць прывабны вобраз нашай краіны, але і пашырыць навуковыя, эканамічныя, сацыяльныя кан-

такты, павялічыць прыток турыстаў і, што вельмі важна, прыцягнуць замежны інтэлектуальны патэнцыял.

Мы ўсё прывыклі аддаваць. А з якой нагоды, прабачце? Вунь святкуем юбілей І.Дамейкі, што аддаў свой талент ледзь не ўсяму свету, а што беларусы з таго скарысталі?

Проста ганарыцца сваім земляком -- гэтага замала. Вельмі важна месца для гэтай справы прафесійных, энергічных і прыстойных людзей. Гляньце, які размах набраў Польскі інстытут у Мінску, які дзейнічае ў нас 6 гадоў. Азнаямленне з польскай культурай зводзіцца не толькі да арганізацыі спектакляў, выстаў, канцэртаў, канферэнцый, выдання кніг, працы ў рэгіёнах. Гаворка ідзе пра больш шырокія паняцці -- дыялог, абмен ідэямі, умацаванне іміджу польскай дзяржавы. Немалая заслуга ў гэтым дырэктара Польскага інстытута Цэзарыя Карпіньскага, які сваёй актыўнай апантанасцю прымушае задумацца: чаму ў нас так мала выяўляецца патрыятызм і ўменне наладжваць дыялог?

-- Які Вы бачыце механізм стварэння Інстытута?

-- Па сваёй ініцыятыве мы ў асноўным распрацавалі канцэпцыю і праграму гэтага інстытута, але далей трэба мець канкрэтнае даручэнне ўрада па гэтым пытанні.

-- Як ставяцца да ідэі Інстытута Беларусі ва ўрадавых колах?

-- З разуменнем.

-- Наколькі верыце Вы ў рэалізацыю гэтага праекта?

-- Я ўпэўнена, што яго магчыма здзейсніць, толькі не ведаю, колькі для гэтага спатрэбіцца часу.

-- Хто, на Вашу думку, павінен працаваць у гэтым інстытуце?

Па-першае, вядомыя беларусісты, навукоўцы шырокага профілю. Па-другое, менеджэры навукі, адукацыі, культуры -- маладыя, энергічныя, ініцыятыўныя, сацыяльна арыентаваныя, здольныя глядзець у заўтра і мысліць стратэгічна, глабальна і па-дзяржаўнаму.

*************************************************

# Дзень беларускага пісьменства ў Міры

**1 верасня ў Міры адбылося свята з гучным назовам «Дзень беларускага пісьменства». Нагодай святкавання сталася выданне амаль паўтысячы гадоў назад Францішкам Скарынам кнігі «Юдыф».**

У старажытнае беларускае мястэчка Мір зьехаліся творчыя і мастацкія калектывы, гістарычныя групы і рыцарскія клубы з мэтаю прадэманстраваць сваё майстэрства. А спажыўцоў хапала – ці не дзясяткі тысяч чалавек апынуліся на замкавым пляцы ў чаканні відовішча. Перад сабраным людам таксама выступілі прадстаўнікі дзяржструктураў і інтэлігенцыі.

Ужо ад самага ранку да галоўных плошчаў гораду пачалі падступацца натоўпы. Дзясяткі аўтобусаў і мноства аўтамабіляў пад'язджалі да пляцовак і вакзалаў, шмат народу падыходзіла пехатою.

Афіцыйна свята пачалося прыкладна а 12-ай гадзіне. Насупраць увахода ў Мірскі замак напачатку прамаўляў прэм'ер-міністар Генадзь Навіцкі, які падкрэсліў важнасць беларускага пісьменства для Беларусі. Пасля выказваліся прадстаўнікі інтэлігенцыі, паэты чыталі вершы. А затым на пляцоўцы выступілі групы гістарычнага танцу, прадэманстраваўшы цудоўную харэаграфію.

На адзін дзень Мір ператварыўся з ціхага гарадку ў шумны прамысловы цэнтр, вялізны гіпермаркет. Набыць можна было без выключэння ўсё і ў вялікай колькасці – ад прадуктаў харчавання да вопраткі ды цацак. Да некаторых гандлёвых месцаў было не прабіцца, нягледзячы на высокія і не вельмі выгодныя кошты.

РайПО шматлікіх беларускіх раённых гарадоў зарганізавалі гандаль уласнай прадукцыяй. Пры гэтым добра-такі адчувалася канкурэнцыя, таму кожны стараўся перацягваць наведнікаў на свой бок за кошт пашырэння выбару і паслугаў.

Відаць, шмат каму стварыў непрыемнасці жорсткі міліцэйскі парадак. Вельмі часта службоўцы ў цывільным папросту прыпынялі людзей, прасілі паказаць дакументы. За адсутнасцю іх праводзілі ў пастарунак – у мясцовую хлебапякарню. Прыпынялі таксама і некаторых, азначаных «пэўнай сімволікай». Як стала вядома, удакладнялі асобы і абшуквалі ўласныя рэчы тых, хто быў у майках «Выбірай», у вопратцы альбо з упрыгажваннямі нацыянальных колераў. Супрацоўнікі міліцыі трымалі «зламыснікаў» даволі працяглы час у пастарунку, удакладнялі асобы і патлумачвалі свае паводзіны так: учора, маўляў, група моладзі з такой сімволікай здзейсніла хуліганства. Пасля прасілі зняць з вопраткі тое, што магчыма, і адпускалі.

Вельмі кепска быў наладжаны рух транспарту. Ужо каля гадзінаў пяці вечара амаль усе квіткі на рэйсавыя аўтобусы былі прададзеныя. Прычым, яны хадзілі недастаткова часта, а праезд каштаваў зусім нятанна. Многія з «святкаванцаў» былі вымушаныя дабірацца дамоў аўтастопам ці пешкі да бліжэйшага населенага пункту.

# Новыя падручнікі для беларускіх гімназіяў і ліцэяў Польшчы

У Беластоку адбылася прэзентацыя новых падручнікаў для беларускіх гімназіяў і ліцэяў Польшчы. Мерапрыемства было арганізавана беластоцкім выдавецтвам "Ортдрук", якое ажыццявіла выхад з друку гэтых кнігаў.

Дэпутат польскага Сейма Яўген Чыквін прадставіў два новыя падручнікі -- "Гісторыя Беларусі" (аўтар -- Яўген Мірановіч) і падручнік беларускай мовы для 2-га класа гімназіі "Шлях да сябе" (аўтар -- Тамара Русачык). Як адзначыў Чыквін, выдавецтва "Ортдрук" па заказе Міністэрства адукацыі Польшчы ўжо выдала да гэтага часу тры падручнікі і зборнік літаратурных тэкстаў для беларусаў, што жывуць у Польшчы. Фінансаванне выданняў было забяспечана Міністэрствам адукацыі Польшчы.

Аўтарам рэдакцыйнай апрацоўкі тэкстаў усіх падручнікаў зьяўляецца Анна Радзюкевіч, большую колькасць фотаздымкаў для гэтых выданняў зрабіў беластоцкі фотамайстар Марэк Далецкі. А вось цудоўныя ілюстрацыі і мастацкае афармленне падручнікаў належаць творчасці беларускага мастака з Мінска Ігара Гардзіёнка.

Асобае месца сярод прадстаўленых падручнікаў займае менавіта "Гісторыя Беларусі" -- першы падручнік у Польшчы, у якім прадстаўлены гістарычны шлях беларусаў на працягу апошняга тысячагоддзя. На думку Я.Чыквіна, гэты падручнік, які ўбачыў свет на польскай мове, можа быць выкарыстаны і вучнямі польскіх школ. "Спадзяюся, што гэты падручнік будзе спрыяць знікненню ў свядомасці палякаў міфаў, стэрэатыпаў і прадузятых поглядаў адносна беларусаў", -- падкрэсліў дэпутат Я.Чыквін.

Сёння ў падляскіх школах з беларускай мовай навучання вучацца 3,5 тысячы вучняў: каля 1800 -- у сярэдніх школах, 500 -- у гімназіях і каля 1200 -- у двух агульнаадукацыйных ліцэях, у Гайнаўцы і Бельск-Падляскім.

=================================================

# Рэзалюцыя

## XIV, нечарговага, зьезду беларускіх пісьменьнікаў

Мы, дэлегаты XIV, нечарговага, з'езда беларускіх пісьменнікаў, усведамляючы лёсавызначальную адметнасць і значнасць моманту, які перажывае сёння наша краіна, і застаючыся вернымі той грамадзянскай пазіцыі, якую на працягу стагоддзяў адстойвалі лепшыя прадстаўнікі нашага народа, лічым сваім патрыятычным абавязкам і сваёй прафесійнай задачай служыць святой, высакароднай справе нацыянальнага, культурнага і духоўнага адраджэння, справе станаўлення Беларусі як суверэннай, незалежнай, дэмакратычнай дзяржавы.

Мы рашуча пратэстуем супраць палітычнага гандлю незалежнасцю нашай Айчыны, супраць імперскіх памкненняў расійскіх улад інкарпараваць Беларусь у склад Расійскай Федэрацыі. Адначасова выказваем занепакоенасць унутранай палітыкай беларускіх уладных структур, скіраванай на размыванне беларускай дзяржаўнасці, перш за ўсё ў нацыянальна-культурнай і адукацыйнай сферах. Мусім сведчыць, што ў краіне мэтанакіравана і паслядоўна праводзіцца русіфікацыя, што мова карэннай нацыі, па-сутнасці, выцясняецца з ужытку ў дзяржаўных установах, у дзіцячых садках, у агульна-адукацыйнай і вышэйшай школе, у сродках масавай інфармацыі, у візуальных медыа і рэкламе, у назвах і шыльдах і г.д. Кніжны рынак краіны запалонены нізкапробнай прадукцыяй, у асноўным замежнага паходжання, што разам з іншымі адмоўнымі чыннікамі вядзе да краху беларускага кнігадрукавання.

Відавочна, што адносіны паміж уладаю і беларускай пісьменніцкай арганізацыяй набылі канфрантацыйны характар: у афіцыйных сродках масавай інфармацыі ідзе няспынное шэльмаванне вядомых у Беларусі і далёка па-за яе межамі літаратараў; незаконна адчужаецца ўласнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў -- Дом літаратара і будынак паліклінікі; гвалтоўна, з грубым парушэннем юрыдычных нормаў зменены статус рэдакцый перыядычных літаратурных выданняў і газеты "Літаратура і мастацтва".

Мы, беларускія пісьменнікі, лічым, што літаратура як адзін з галоўных складнікаў культуры і духоўнага самасцвярджэння нацыі, павінна па праве займаць годнае месца, карыстацца паважлівымі адносінамі і падтрымкай з боку дзяржавы і грамадства, як гэта робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах свету.

Мы цвёрда заяўляем пра сваё чалавечае, грамадзянскае і прафесійнае права на свабоду думкі і слова, на актыўныя кансалідаваныя дзеянні ў абарону нацыянальнай годнасці беларуса, дэмакратыі, правоў чалавека і сацыяльнай справядлівасці.

Найпершым неабходным крокам на шляху нацыянальнага Адраджэння лічым забеспячэнне дзяржавай як вышэйшай арганізацыйнай структурай народа належных умоў для існавання і рэальнага ўжытку ва ўсіх сферах жыцця краіны беларускай мовы.

Мы патрабуем ад уладаў:

практычна ажыццяўляць Закон аб мовах і адпаведную канстытуцыйную норму;

аднавіць адменены ў гэтым годзе Міністэрствам адукацыі экзамен па беларускай літаратуры ў сярэдняй школе;

з мэтай вяртання беларускай кнігі на кніжны рынак рэспублікі тэрмінова вызначыць і ажыццявіць эфектыўныя пратэкцыяністцкія меры па падтрымцы айчыннага кнігадрукавання, увесці падаткі з продажаў для замежных выдаўцоў і выкарыстоўваць гэтыя сродкі для развіцця нацыянальнай культуры, літаратуры і мастацтва;

для нармалізацыі сучаснага літаратурнага працэсу, вяртання яго ў спрыяльнае творчае рэчышча перагледзець рашэнне аб стварэнні рэдакцыйна-выдавецкай установы, так званага медыа-холдынгу "Літаратура і мастацтва";

адмяніць распараджэнне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 ліпеня 1997 года за №182 і вярнуць Саюзу беларускіх пісьменнікаў яго законную ўласнасць -- Дом літаратара і будынак паліклінікі.

З'езд выказвае ўпэўненасць, што творчая і грамадская дзейнасць кожнага беларускага пісьменніка будзе вызначацца вернасцю высокім прынцыпам грамадзянскай адказнасці за лёс роднай літаратуры і лёс Бацькаўшчыны як незалежнай, дэмакратычнай, свабоднай дзяржавы.

Дэлегаты XIV з'езда беларускіх пісьменнікаў.

24 верасня 2002 года. Нечарговы з'езд беларускіх пісьменнікаў

# "Нарыс гісторыі Беларусі" Г.Сагановіча адзначаны ўзнагародай часопіса "Przeglad Wschodni"

"У кнізе "Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя" асноўная ўвага скіравана на падзеі дзяржаўна-палітычнага і грамадскага жыцця Беларусі, што паказаны ў сувязі з еўрапейскім кантэкстам", -- зазначыў у інтэрв'ю БелаПАН вядомы беларускі гісторык, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Генадзь Сагановіч.

Гісторык адзначыў, што ў кнізе ён сцісла выклаў сваю версію гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да ўключэння беларускіх земляў ў склад Расійскай імперыі напрыканцы XVIII стагоддзя. "Я імкнуўся акцэнтаваць увагу на тых спрэчных момантах айчыннай гісторыі, асвятленне якіх больш за ўсё пацярпела ад ідэалагічных установак савецкай гістарыяграфіі".

Нагадаем, што кніга была надрукавана накладам 3 тысячы асобнікаў мінскім выдавецтвам "Энцыклапедыкс". Выданне добра ілюстраванае, дапоўненае табліцамі і картамі, геаграфічным паказальнікам і індэксам асоб.

Паводле слоў Сагановіча, да канца года ў выдавецтве "Энцыклапедыкс" запланаваны выхад працягу выдання -- "Нарысаў гісторыі Беларусі XIX--XX стагоддзяў", падрыхтаваных вядомым айчынным гісторыкам Захарам Шыбекам. Дарэчы, польскамоўныя версіі абедзвюх кніг, выдадзеныя гэтай вясной у Любліне (Польшча), былі адзначаны ўзнагародамі часопіса "Przeglad Wschodni" ("Усходні агляд", Варшава).

Зараз Генадзь Сагановіч працуе над кнігай "Нямецкі ордэн у беларускай гісторыі". "Гэтая тэма з'яўляецца "белай плямай" у айчыннай гістарыяграфіі. У даследаванні выкарыстаны матэрыялы еўрапейскіх архіваў, у тым ліку старажытныя хронікі на старанямецкай мове", -- паведаміў навуковец. Кніга павінна выйсці з друку напрыканцы года.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Літва ўзмацняе мяжу

З новага года будзе адменены спрошчаны пераход беларуска-літоўскай мяжы жыхарамі памежнага рэгіёна, паведаміў начальнік Гарадзенскага памежнага атрада Віктар Крупскі

Зараз усе жыхары памежных сельскіх саветаў на тэрыторыі Беларусі могуць пераходзіць праз прапускныя пункты на беларуска-літоўскай мяжы без візы. З 1-га студзеня для іх па рашэнню літоўскага боку ўводзіцца візавы рэжым, як і для іншых грамадзянаў Беларусі

Такое рашэнне літоўскі бок, па словах Віктара Крупскага, прыняў у сувязі з падрыхтоўкай Літвы да ўступлення ў Еўразвяз

З Польшчай спрошчаны пераход мяжы жыхарамі памежных населеных пунктаў дзейнічае штодзённа для людзей старэйшых 60-ці гадоў і па рэлігійных святах для ўсіх астаніх. Візавы рэжым з Беларуссю польскі бок збіраецца ўвесці з траўня-чэрвеня наступнага года, аднак правілы спрошчанага перахода мяжы змяняць пакуль не плануе.

*************************************************

# Братазабойства

## Перад разбітым карытам

Гульня ў інтэграцыю, відаць, наблізілася да фінішу. З цынічнай настойлівасцю Пуцін трэці раз паўтарае "прапанову" ўключыць Беларусь у сваю азіяцкую імперыю. На правах звычайнага суб'екта федэрацыі. Калі разбойніцкую задуму ўдасца ажыццявіць, гэта будзе азначаць канец незалежнасці, канец самому існаванню беларускай нацыі.

Падумаць толькі! Людзі, якія штодзённа кляліся ў братэрскіх пачуццях да нашага народа, хочуць раз і назаўсёды ліквідаваць гэты народ, сцерці з твару зямлі. Вось дык "браты"! Усё гэта можна назваць адным словам -- братазабойства.

На працягу многіх стагоддзяў маскоўцы вялі захопніцкія, агрэсіўныя войны з Беларуссю -- Вялікім княствам Літоўскім, але так і не змаглі канчаткова скарыць нашу краіну. Яна, як тая птушка Фенікс, зноў і зноў паўставала з попелу. І вось цяпер крамлёўскія дзеячы, мабыць, рашылі, што час "Х" надышоў. Дзякуючы мясцовым калабарантам Беларусь можна задушыць у "сяброўскіх" абдымках, мірным, так бы мовіць, шляхам.

Немагчыма нават уявіць, каб такая зняважлівая, абуральная прапанова аб фактычным аншлюсе была пастаўлена, напрыклад, перад Літвой, Латвіяй, любай іншай краінай. Гэта быў бы надзвычайны міжнародны скан- дал... А з нас, аказваецца, можна здзекавацца.

Як мы апынуліся ў такім ганебным становішчы, добра вядома. Савецкі Саюз пакінуў нам у спадчыну страх перад дыктатарскай уладай, бездухоўнасць, здэнацыяналізаванае насельніцтва. Правячая ў Беларусі наменклатура, выхаваная на ідэях Сталіна--Брэжнева, была прывучана толькі пакорна выконваць загады маскоўскіх партбосаў. Незалежнасць для яе звалілася як снег на галаву. Мясцовыя князькі не ведалі, што з ёю рабіць. Калі ў іншых рэспубліках былога СССР кіруючыя камуністы адразу перафарбаваліся ў нацыянал-патрыётаў і пачалі будаваць свае незалежныя дзяржавы, то нашы дзеячы не здолелі перамагчы свае комплексы правінцыйнасці і непаўнавартаснасці. Яны былі для гэтага занадта перакананымі інтэр- нацыяналістамі, больш клапаціліся пра другія народы, а пра свой, як звычайна, забыліся.

Але ж страціць уладу, уступіць яе апазіцыі таксама не хацелася. Яны не пажадалі прыслухацца да голасу мясцовых патрыётаў, лідэраў узнікшых дэмакратычных партый і рухаў, а пайшлі старым знаёмым шляхам -- на паклон да Масквы, за "ўказаннямі". Першыя крокі ў гэтым кірунку праклаў былы прэм'ер-міністр Кебіч. А.Лукашэнка так званы саюз з Расіяй зрабіў прыярытэтам №1 сваёй унутранай і знешняй палітыкі. Нацыянальнае адраджэнне, якое ўжо прыносіла добрыя вынікі, было гвалтоўна спынена.

### Беларусь без беларусаў

Першы прэзідэнт маладой Беларусі павярнуў дзяржаўны карабель у старое камуністычнае рэчышча. Пас ля сумна вядомых рэферэндумаў 1995--1996 гадоў ва ўсёй сіле аднавілася палітыка шалёнай русіфікацыі, вяртання да СССР, да саюза з Расіяй, фактычна да здачы незалежнасці.

Нягледзячы на больш чым паказальныя дадзеныя ўсеагульнага перапісу, згодна з якім беларусы складаюць амаль 82 працэнты насельніцтва краіны, 85 працэнтаў з іх роднай мовай лічаць беларускую, -- насуперак гэтаму ўлада рашуча ўзмацніла наступ на беларушчыну. У гарадах, бадай, не засталося ніводнай цалкам беларускай школы, дабраліся да вёсак і мястэчак. Няма ніводнай вышэйшай і сярэдняй навучальнай установы на роднай мове. Усё чынавенства ўслед за галоўным інтэгратарам карыстаецца мовай суседняй дзяржавы.

Мэта гэтай здраднай палітыкі зусім зразумелая -- максімальна аблегчыць аншлюс, а нашаму "бацьку" ўрачыста ўехаць на белым кані ў так жаданы Крэмль. Але блакітныя мары аказаліся ўсяго толькі марамі і начальнік дзяржавы трохі прыглушыў інтэграцыйныя працэсы, не адмовіўшыся, аднак, ад саюзніцкай рыторыкі. Калі ж Пуцін адкрыта сказаў пра аншлюс, бацька спужаўся, што застанецца не толькі без жураўля ў небе, але і без сініцы ў руках. Вось тады ён, нарэшце, і загаварыў пра суверэнітэт краіны. Узнялася шумная кампанія ў дзяржаўных СМІ і г.д.

Толькі штосьці слаба верыцца ў гэты раптоўны паварот. Каб грамадства паверыла, трэба спыніць русіфікацыю, пачаць дыялог з апазіцыяй, адмяніць антыдэмакратычныя законы і г.д.

### Дзе выхад з крызісу

Сёння мы спаўна пажынаем плады згубнай антынароднай палітыкі рэжыму. У занепадзе прамысловасць і сельская гаспадарка, навука і культура. Крызіс ахапіў усе галіны вытворчасці і грамадскага жыцця. Галоўны інтэгратар завёў сябе і краіну ў тупік. Што ж цяпер застаецца, згаджацца на пасаду губернатара Мінскай або Магілёўскай вобласці?

Самае разумнае ў гэтай сітуацыі было б рашэнне аб адстаўцы. Але ж бальшавіцкія выхаванцы проста так ад улады не адмаўляюцца. Яны "цвёрдакаменныя", не зважаюць на тое, што давялі народ да галечы, закрылі ўсе перспектывы для моладзі. Яны не жадаюць ісці цывілізаваным шляхам. А.Лукашэнка ўсё роўна працягвае старую песню аб тым, што альтэрнатывы саюзу з Расіяй няма. Народы Беларусі і Расіі, маўляў, хочуць жыць разам, у адной, так сказаць, камуналцы. Канешне, дзесяцігоддзі хлусні аб братэрстве аказалі свой уплыў на свядомасць людзей. Тым не менш напаўжабрацкае існаванне пры рынкавым сацыялізме паступова раскрывае вочы не толькі моладзі, але і ветэранам. Пераважная большасць беларусаў не жадае аб'ядноўвацца з усходняй суседкай. Гэта прызнаў нават Пуцін падчас сустрэчы з Лукашэнкам у Піцеры.

### Імперскі сіндром

Сапраўды, ну нідзе ж у свеце ніхто не асмеліцца нават заікнуцца пра падобныя намеры, бо яго адразу і справядліва залічылі б у здраднікі. Бо кожны народ, як зрэнку вока, аберагае сваю незалежнасць, сваё права самастойна вырашаць усе пытанні, датычныя яго жыцця. Тая ж Расія, хоць вялікая па тэрыторыі і багатая на розныя рэсурсы, з-за вечнага бязладдзя жыве ў галечы. Аднак не ставіць пытанне, скажам, аб далучэнні да... Японіі, пад кіраўніцтвам якой, мабыць, за дзесятак гадоў дасягнула б небывалага росквіту. Але замест таго каб (па словах Салжаніцына) "обустраивать" сваю краіну, імкнецца бясконца расшырацца то за лік Беларусі, то Украіны, хоць ужо добра апяклася ў той жа Чэчні.

На жаль, імперскі сіндром не дае спакою многім расійскім палітыкам. Вось і нядаўна сакратар так званага саюза Расіі і Беларусі, сумна вядомы Барадзін, нахабна сцвярджаў, што Беларусь будзе-такі ў складзе саюза, чытай Расіі, а потым прыйдзе чарга Украіны, усіх былых рэспублік СССР. Для яго, бачыце, мала расійскіх прастораў, трэба яшчэ кагосьці прывязаць да тройкі-калымагі, якая (па Гогалі) нясецца няведама куды.

Пара адумацца ўжо, "господа хорошие", сёння на двары XXI, а не XIX стагоддзе. Трэба, нарэшце, жыць у згодзе і дружбе, не разяўляць рот на чужое. Што да Беларусі, дык розныя саюзныя дамовы ад яе імя падпісвалі людзі, не маючыя адпаведных паўнамоцтваў. Таму што ні парламент, ні прэзідэнт не з'яўляюцца ў поўнай меры легітымнымі. У тым, дарэчы, немалая заслуга Расіі. Успомнім восень 1996 года і маскоўскі дэсант па выратаванні Лукашэнкі, якому пагражаў імпічмент за парушэнне законаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Але тройка "багатыроў" у складзе Чарнамырдзіна, Строева ды Селязнёва адстаялі свайго сябрука. Рахманая беларуская палітыкі пайшлі на кампраміс, які на справе аказаўся брутальным падманам.

А прэзідэнцкія выбары 2001 года? Хто даў сігнал аб падтрымцы А.Р.? Той жа Пуцін. Увесь свет не прызнаў "элегантна" сфальсіфікаваных выбараў, а Расія прызнала. Тым самым узяла на сябе адказнасць за дзейнасць А.Р. Няхай цяпер і разлічваецца за яго даўгі, няздольнасць развіваць эканоміку, пра водзіць рэформы і г.д.

### Хто каго корміць

На самай справе, чаму беларусы павінны сплачваць Расіі даўгі, якія нарабілі яе марыянеткі? Каб Расія не ўлазіла ў нашы справы, то Лукашэнка быў бы адпраўлены ў адстаўку ў тым жа 1996 годзе. Мы выбралі б дэмакратычнага кіраўніка і пайшлі б цывілізаваным шляхам у Еўропу, што было б выгадна і Расіі. Ні аб якім саюзе ніхто б і не трызніў.

А зараз, карыстаючыся поўным правалам палітыкі сваіх стаўленікаў, Расія хоча загнаць нас у каланіяльнае ярмо, бо эканамічна аказаліся залежнымі ад яе. Але тут трэба яшчэ добра падлічыць, хто каму вінаваты.

Расія амаль 200 гадоў эксплуатавала беларускі народ і што, не адчувае ніякай адказнасці перад ім? А тое, што "ўзнагародзіла" нас Чарнобылем -- таксама дробязь, не вартая ўвагі?! Мала таго, пазней, аберагаючы сябе, Масква загадала асадзіць на ўсходнюю Магілёўшчыну радыеактыўныя воблакі. Можа, хоць бы за гэта варта было б заплаціць? Усе "варожыя" краіны Захаду адразу ж пасля аварыі сталі аказваць Беларусі гуманітарную дапамогу, а братняя краіна ані-ні...

Успомнім, колькі на тэрыторыі Беларусі было атамнай зброі. Рэспубліка добраахвотна згадзілася перадаць яе Расіі. І не атрымала за гэта ні рубля. Між іншым Амерыка купляла ў Расіі атамныя зарады, у тым ліку і з тых, забраных у нас ракет.

Пуцін, а з ім і іншыя маскоўскія чыны бясконца цвердзяць, што ўнутраны валавы прадукт Беларусі складае ўсяго 3 працэнты ад расійскага. І таму, маўляў, ніякага раўнапраўя ў нас быць не можа. Не хочуць, аднак, згадаць, што маленькі Люксембург, напрыклад, карыстаецца ў Еўрапейскім Саюзе аднолькавымі правамі з гіганцкай Германіяй і іншымі краінамі.

Калі на тое пайшло, то давайце ўдакладнім не толькі працэнт валавага прадукту, але і працэнт адстаўнікоў, якіх пасадзіла на шыю беларуса Масква. Армія ж была, дай Бог якая...

Беларускае кіраўніцтва патрабуе ад Украіны сплаціць запазычанасць у суме 113 мільёнаў долараў. Гэта, аказваецца, даўгі суб'ектаў гаспадарання, якім нашы прадпрыемствы па савецкай завядзёнцы адправілі свае тавары без папярэдняй аплаты. Прэтэнзіі справядлівыя. Але чаму такі ж зыск не ўчыніць і расійскім прадпрыемствам, якія атрымалі з Беларусі, пэўна, не менш, а намнога больш розных тавараў. Добра памятаю, як не тое што многія, а амаль усе кіраўнікі скардзіліся на бессаромных расійскіх гаспадарнікаў, якія дружна ігнаравалі слёзныя просьбы беларускіх калег разлічыцца за пастаўленую прадукцыю. Ды ўсё дарма. А сумы былі немалыя, на мільёны і дзесяткі мільёнаў у цэнах да вядомага абвалу рубля.

А дзве ваенныя базы, што вальготна размясціліся каля Вілейкі і Баранавіч? Навошта яны нам патрэбны?! Аб'екты небяспечныя не толькі ў ваенных адносінах, але, не выключана, і на здароўе мясцовых жыхароў дрэнна ўздзейнічаюць. Нездарма Украіна і Латвія патрабавалі ліквідаваць аналагічныя аб'екты на сваёй тэрыторыі. І дабіліся жаданага выніку. А рахманыя беларусы павінны цярпець. З-за бязглуздай і безадказнай палітыкі рэжыму. Дык чаму Расія не плаціць за базы?

Зноў жа транзіт. Па словах самога А.Р., за год па нашых дарогах праязджае пад два мільёны грузавых і пяць мільёнаў легкавых аўтамабіляў. Перавозіцца каля двухсот мільёнаў тон грузаў. Па льготных тарыфах падаецца ў Еўропу газ ды нафта. Нядаўна наш прэм'ер, калі яго прыціснулі да сценкі за нядоімкі па розных рэсурсах, даў здачы расійскаму брату: маўляў, мы бяром за транзіт усяго чацвёртую частку ад міжнародных тарыфаў.

Дык, можа, браць усё, як нармальныя дзяржавы робяць, і самім таксама поўнасцю плаціць за газ, нафту і г.д. Тады ўсталююцца не брацкія, а нармальныя адносіны, як з другімі незалежнымі краінамі. Тым больш што ў цэлым, па падліках самога А.Р., баланс у нашу карысць. І складае каля 1 мільярда долараў. Раней эканамісты даводзілі, што рэспубліка можа зарабіць на транзіце звыш за два мільярды долараў. Канешне, калі падыходзіць да вырашэння праблемы з усёй адказнасцю перад сваім народам, а не з "братэрскімі" пачуццямі да суседзяў.

### Гаранты, дзе вы?

Пра іх чамусьці ніхто і не ўспамінае. Як ні дзіўна, але ў гэтай пачэснай ролі выступае і наша ўсходняя суседка. Разам з Англіяй і ЗША. Гэтая падзея, як вядома, адбылася на пачатку 90-х гадоў мінулага ўжо стагоддзя. У адказ на добраахвотную адмову Беларусі ад атамнай зброі названыя тры краіны сталі гарантамі нашай незалежнасці. Зараз можна канстатаваць, што дзве з іх сапраўды не забываюць пра нас, пры неабходнасці падтрымліваюць. Асабліва прынцыповую і паслядоўную пазіцыю ў гэтым пытанні займаюць Злучаныя Штаты Амерыкі. Што ж датычыць Расіі, то яна, як бачым, робіць усё наадварот. З дапамогай сваіх марыянетак і "агентаў уплыву". У гэтай сітуацыі дэмакратычныя партыі і рухі павінны звярнуцца за дапамогай да ЗША і Англіі. А Расіі трэба напомніць пра абавязкі, якія яна ўзяла на сябе. І патрабаваць адмовіцца ад падкопаў пад нашу незалежнасць. Наўпрост сказаць, што нам не саюз з ёю патрэбны, а раўнапраўныя, дружалюбныя адносіны на ўзаемавыгаднай аснове. Пазіцыя нелегітымнага беларускага рэжыму, насаджанага, дарэчы, з дапамогай Расіі, не павінна прымацца пад увагу. Ніякіх рэферэндумаў аб суверэнітэце, бо гэта забаронена Канстытуцыяй. Беларусам няма сэнсу аб'ядноўвацца з Расіяй, хіба каб гніць у яе канцлагерах і выконваць рабскую працу.

**Фёдар КАРДАШ,** (Narodnaja Vola)

********************************************



Беларускі музей у Гайнаўцы

Фота ВІКТАРА БУРЫ



Ініцыятары будовы музея: Канстанцін Майсеня (злева) і Аляксандр Баршчэўскі

*Ніва*

# Беларускі музей — справа іх гонару і сэрца

Беларускае грамадска-культурнае таварыства музейнай справай займалася амаль ад пачатку свайго існавання. У 60-я гады мінулага стагоддзя апекавалася яно Беларускім этнаграфічным музеем у Белавежы, якога заснавальнікам быў Канстанцін Майсеня, тадышні старшыня Павятовага саюза гмінных кааператываў у Гайнаўцы. БГКТ было толькі фармальным уладальнікам музея. У сапраўднасці яго дзейнасць фінансавала кааператыўная арганізацыя ПЗГС, якую тады ўзначальваў Майсеня. З-за аказванай музею падтрымкі ўзніклі ў Майсені на рабоце клопаты. Ягоныя ваяводскія начальнікі палічылі фінансаванне музея немэтазгодным. Адмоўна да белавежскага музея паставілася Міністэрства ўнутраных спраў, якое абвінаваціла БГКТ у нестатутных дзеяннях.

Нягледзячы на перашкоды і складанасці, Канстанцін Майсеня не здаўся і далей упарта і настойліва падтрымоўваў музей. У гэты час ГП БГКТ правяло паспяховую акцыю па зборы музейных экспанатаў. Наглядным прыкладам ангажаванасці Таварыства ў музейную справу можа быць асоба інструктара ГП Міхася Вішанкі, які 5 кіламетраў нёс на сваіх плячах пярэднюю частку драўлянага воза, знойдзеную ім на вясковым панадворку. Укамплектаваны пазней драўляны воз быў сапраўднай аздобай музея. Другой каштоўнсцю была калекцыя каменных тапароў, якія аўтар гэтых радкоў выкапаў на сваім агародзе. Перадаў я іх бясплатна ў музей. На жаль, цяперашні іх лёс мне невядомы.

Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы пакутаваў ад нястачы грошай, у выніку чаго не былі стрыманы ўмовы па захоўванні экспанатаў. Да гэтага прычапіліся праціўнікі і ворагі музея. Пад іх націскам улады БГКТ былі вымушаны перадаць экспанаты быццам на кансервацыю ў Сельскагаспадарчы музей у Цеханоўцы (надалей нявырашанай застаецца праблема іх вяртання ў Гайнаўку). Такім каварным чынам музей у Белавежы быў ліквідаваны.

Але дзеячы БГКТ на чале з Канстанцінам Майсенем і Аляксандрам Баршчэўскім ніколі не адмовіліся ад ідэі свайго беларускага музея. Для іх стаў ён справай гонару і сэрца. Больш прыхільная атмасфера для ажыццяўлення ідэі ўзнікла ў 1980-я гады, ва ўмовах палітычнага крызісу ў краіне. Ваяводскія ўлады сталі пагаварваць аб магчымасці стварэння беларускага музея ў Беластоку, Белавежы, Бельску або Гайнаўцы. Галоўнае праўленне БГКТ шмат разоў абмяркоўвала лакалізацыю будучага музея, галоўным чынам разважала прапановы ўлад наконт памяшканняў. У рэшце рэшт ініцыятары стварэння музея выбралі Гайнаўку.

Пад музей быў прызначаны будынак былой мазаікарні і ўчастак вакол яго ў самым цэнтры Гайнаўкі. Арганізацыяй музея заняўся Канстанцін Майсеня. Пасля многіх хадайніцтваў ГП БГКТ перад Управай горада Гайнаўкі, якой тады кіравалі Ядвіга Рудзінская-Патэюк і Станіслаў Кастэра, у Павятовым судзе ў Бельску-Падляшскім была афармлена бясплатная перадача будынка мазаікарні і ўчастка Беларускаму таварыству. Акт перадачы падпісалі прадстаўнікі горада з аднаго боку і ГП БГКТ — з другога (тадышнія старшыня ГП БГКТ Аляскандр Баршчэўскі і ягоны намеснік Аляксандр Іваноўскі).

Чарговым крокам на шляху да ажыццяўлення ідэі стала стварэнне па ініцыятыве Канстанціна Майсені Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Дзякуючы ангажаванасці яго і Аляксандра Баршчэўскага, якія шмат разоў хадайнічалі перад высокімі чыноўнікамі ў Варшаве і Мінску, былі раздабыты сродкі на пабудову музейных будынкаў. Галоўнымі спонсарамі сталі ўлады Польшчы і Беларусі. Асаблівую прыхільнасць аказалі тадышні міністр замежных спраў Беларусі Пятро Краўчанка і старшыня Таварыства „Радзіма" з Мінска Мікалай Васілёнак.

Кантакты з беларусамі замежжа, галоўным чынам сяброўскія, дзелавыя і навуковыя сувязі Аляксандра Баршчэўскага — тады загадчыка Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, старшыні ГП БГКТ і паэта, вядомага пад літаратурным псеўданімам Алесь Барскі — з беларускімі дзеячамі ў ЗША, прыцягнулі да музея ўвагу і матэрыяльную падтрымку эміграцкіх цэнтраў. Сам Аляксандр Баршчэўскі вярнуўся з адной паездкі ў ЗША са шчодрым дарам амерыканскіх беларусаў — 2 тысячамі долараў.

У справу актыўна ўключыліся дзеячы БГКТ і жыхары ўсходняй Беласточчыны. Прыхільнікі музея, галоўным чынам гайнаўяне, працавалі пры добраўпарадкаванні ўчастка і будынка мазаікарні. Дапамагала ім моладзь мясцовага беларускага ліцэя. Дзеячы і звычайныя грамадзяне ўплачвалі грашовыя ўзносы, перадавалі экспанаты.

Несумненна самым шчодрым да гэтай пары донарам з ліку індывідуальных асоб з'яўляецца Аляксандр Баршчэўскі, які перадаў музею найбольш грошай. Разам з Канстанцінам Майсенем прысвячаў ён будове музея свой вольны час, не падкрэсліваючы публічна сваёй ролі. Наадварот, ён заўсёды адзначаў, што музей ствараецца дзякуючы добрай волі і сардэчнасці соцень беларусаў Усходняй Беласточчыны, прыхільнасці гайнаўскіх улад і ахвярнасці Рэспублікі Беларусь і беларускай эміграцыі.

Будова музея асвятлялася на старонках беларускага друку, у тым ліку ў „Беларускім календары", які штогод выдае Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Пасля 1996 г., калі Аляксандр Баршчэўскі парваў кантакты з БГКТ з-за прыхільнага стаўлення яго Галоўнага праўлення да антынацыянальнай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі, асоба аднаго з пачынальнікаў будовы музея стала замоўчвацца. Напрыклад, у мінулагоднім календары пры артыкуле аб Гайнаўскім беларускім музеі „канфіскаваны" быў здымак яго ініцыятараў. Апальны здымак прапануем чытачам „Нівы".

Будова Беларускага музея ў Гайнаўцы працягваецца. Далей вядзецца збор грошай і экспанатаў. Спадзяюся, што справа пачатая Канстанцінам Майсенем і Аляксандрам Баршчэўскім усё-такі будзе даведзена да канца і Беларускі музей стане прымаць наведвальнікаў. Будзе ён для нас сімвалам духовай і матэрыяльнай сілы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, еднасці беларусаў свету і прыхільнай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасцей з боку новай дэмакратычнай Польшчы.

Віктара БУРА

# Кіраўнік "Wspolnoty Polskiej" наведаў Гародню

**У Гародні адбылася сустрэча старшыні таварыства "Wspolnoty Polskiej" Анджэя Стэльмахоўскага са старшынём гарадзенскага аблвыканкама Уладзімірам Саўчанкам. Галоўнай тэмай размовы стаў праект будаўніцтва на Гарадзеншчыне трох польскамоўных школаў, прапанаваны польскім бокам. Пасля сустрэчы кіраўнік "Wspolnoty Polskiej" даў прэс-канферэнцыю.**

- Прыйшоў час пацяплення ў беларуска-польскіх стасунках, якія, як вядома, былі апошнім часам не найлепшыя, - лічыць **Анджэй Стэльмахоўскі**. – *Трэба пачынаць са сфераў, дзе найменей палітычных элементаў – з культуры і асветы. У Літве, дзе пражывае 280 тыс. Палякаў дзейнічае 121 польскамоўная школа... У той час як на Беларусі, дзе колькасць палякаў значна большая існуе толькі 2 школы з польскай мовай навучання... Сітуацыя проста не параўнальная*

Спадар Стэльмахоўскі прапанаваў старшыні аблвыканкама пабудаваць тры новых польскамоўных школы – у Гародні, Воранаве і Лідзе, дзе паводле дадзеных апошняга перапісу пражывае найбольшая колькасць палякаў. Фінансаванне будаўніцтва цалкам узяў на сябе польскі бок. Але да канкрэтных дамоваў справа пакуль не дайшла

- Размова ішла даволі цяжка, - гаворыць спадар **Стэльмахоўскі.** – ... Магу толькі сказаць, што спадар губернатар стаяў на тым, што людзі прывыклі да расейскай мовы і ўвядзенне польскай мовы будзе своеасаблівым ламаннем дзяцей. Мне асабіста выдаецца, што навучанне на роднай мове не зьяўляецца ламаннем.

Перамовы скончыліся абяцаннем старшыні аблвыканкама бліжэй вывучыць праблему польскамоўнага навучання на Гарадзеншчыне. На сустрэчы таксама прысутнічалі старшыня гарадзенскага гарвыканкама Аляксандр Антоненка, кіраўнік "Związku Polakow na Bialorusi" Тадэвуш Кручкоўскі і кіраўнік "Macierzy Szkolnej" Станіслаў Сенкевіч. Абедзве польскія арганізацыі ў Гародні, як заявіў кіраўнік "Wspolnoty Polskiej", могуць стаць партнёрамі пры будаўніцтве польскамоўных школаў. Да апошняга часу такім партнёрам заўсёды быў "Związek Polakow na Bialorusi". Але ў сувязі з нядаўнім скандалам, які разгарэўся паміж сённяшнім і былым старшынямі арганізацыі, польскі бок не можа разглядаць Związek як адзінага партнёра. Дарэчы, сённяшнюю сустрэчу кіраўніка "Wspolnoty Polskiej" і старшыні аблвыканкама зарганізавала "Macierz Szkolna

Скандал ў "Związku Polakow na Bialorusi" Анджэй Стэльмахоўскі пракаментаваць адмовіўся

**- Я не хачу яе ацэньваць і ўсё, - сказаў ён.**

**Пасля прэс-канферэнцыі ён зрабіў сумесны здымак з лідарамі двух найбуйнейшых польскіх арганізацый Беларусі Тадэвушам Кручкоўскім і Станіславам Сенкевічам.**

Алеся Сідлярэвіч (Пагоня)

************************************************

# Сын В.Корбут прызнае сябе вінаватым у падробках

Сын алімпійскай гімнасткі Вольгі Корбут у сераду 4-га верасьня прызнаў сябе вінаватым у вырабе 20.000 тысяч фальшывых даляраў.

Рычард Барткевіч прызнаўся суду, што, выкарыстоўваючы кампутар, падрабляў грошы зь лістапада 2001 г. да лютага 2002 г. 23-гадоваму Р.Барткевічу пагражае 20 гадоў турэмнага зьняволеньня, а ў найлепшым выпадку 250.000 даляраў штрафу й магчымая дэпартацыя. Вынясеньне прысуду прызначылі на 7 лістапада.

У сьнежні 2001 г. прадстаўнік шэрыфа павету (Gwinnett County) знайшоў у былым доме сп-ні. Корбут фальшывыя 100-даляравыя банкноты. В.Корбут ня мела дачыненьня да падробак. Яе арыштавалі ў студзені па вінавачаньні ў крамных крадзяжох. Яна пазьбегла судовага перасьледу, згадзіўшыся на ўдзел у праграме дасудовай дывэрсіі.

 



# ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ І СУВЕРЭНІТЭЦЕ БЕЛАРУСІ

*Прынята Малой Радай*
*МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" 26.09.2002 г.*

МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўзшчына" заўсёды стаяла на грунце падтрымкі суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. У сувязі з тым, што рэальная пагроза іх страты зноў нарастае, лічым сваім абавязкам заявіць наступнае.

У трэцяе тысячагоддзе Беларусь увайшла як суверэнная дзяржава. Пасля некалькіх стагоддзяў залежнага існавання ў складзе іншых дзяржаў, намаганнямі і барацьбой некалькіх пакаленняў адраджэнцаў, праз ахвяры, страты і паразы Беларусь здабыла сваю незалежнасць, атрымала сваю дзяржаўнасць.

Выпрабаванні, аднак, скончыліся. Глыбокую трывогу выклікае стан беларускай мовы, культуры і гістарычнай спадчыны. Ідуць працэсы разбурэння сістэмы нацыянальнай культуры, адукацыі, навукі, нацыянальных сродкаў масавай інфармацыі. Сістэма беларускага кнігадрукавання пазбаўлена належнай дзяржаўнай падтрымкі.

Кан'юнктурная палітыка кіруючых колаў на "единение" з Расіяй, стварэнне беларуска-расійскага "союзного государства" пры адначасовай самаізаляцыі ад заходніх краін, паставіла Беларусь перад дзвюма рэальнымі пагрозамі: ці інкарпарацыі ў склад Расіі, ці пераўтварэння краіны ў замкнёную дзяржаву, ізаляваную ад усяго свету, не толькі ад Захаду, але і ад Усходу.

Але ёсць яшчэ адзін шлях.

Шлях захавання і ўмацавання Беларусі ў якасці нацыянальнай дэмакратычнай дзяржавы, неад'емным пастулатам існавання якой з'яўляецца ідэя беларускага адраджэння – мовы, культуры, нацыянальнай самасвядомасці.

Гэтым шляхам прайшлі, ідуць дзесяткі краін Еўропы і свету, што дасягнулі высокага ўзроўню развіцця і дабрабыту насельніцтва.

Гэты шлях не адмаўляе добрасуседскіх, на узаемную карысць, адносін з Расіяй, але як дзвюх самастойных дзяржаў.

**МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" заяўляе** аб сваёй салідарнай пазіцыі з усімі дэмакратычнымі сіламі краіны, ідэалам і мэтай дзейнасці якіх з'яўляецца незалежнасць і суверэнітэт, дэмакратыя і свабода для Беларусі.

**ЗБС "Бацькаўшчына" заклікае** беларускую дыяспару за мяжой і надалей прыкладаць усе магчымыя намаганні дзеля тлумачэння гэтага ідэала народам і ўладам краін іх пражывання.

**ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца** з асобным заклікам да беларускай дыяспары ў Расіі выкарыстоўваць свае магчымасці для тлумачэння расіянам выгод існавання Беларусі ў якасці незалежнай і дэмакратычнай дзяржавы для самой Расіі, як маста паміж Усходам і Захадам. Намеры пераўтварэння Беларусі ў частку Расійскай Федэрацыі пасварыць нашыя народы, дэстабілізуе палітычную сітуацыю ў Еўропе.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Як на край балотны ішоў сацыялізм

Ад Мінска да Любані паўтары сотні кіламетраў. І гнаць трэба на поўдзень, у балотны край. "Балоты -- спрадвечнае праклящце Палесся", -- сцвярджалі бальшавікі і з рэвалюцыйным запалам узяліся за асушэнне балот, кінуўшы туды вayроў Самарскай і Чангарскай дывізій.

Чым жа прыглянулася Любаньшчына асушальнікам?

З XVI стагоддзя Любанню ўладарылі князі Алелькавічы, а пазней -- слуцкія купцы Тышкевічы. Згодна з энцыклапедычнымі звесткамі, у 1880 годзе тут цешылася сонцам 500 тубыльцаў. Праваслаўныя маліліся ў Прэабражэнскай царкве, іудзеі -- у трох малітоўных дамах. Працавалі 2 млыны, гандлявалі крамы, а прыстань на рацэ Арэса вабіла да сябе і дарослага, і малога...

Гарыць зямля

Дым курыўся ўздоўж усёй дарогі ад Старобіна да Любані. У наваколлі Обчына, Залугі, Рачэні, Забалоцця рэдкі дым сцелецца ўсюды, як ахапіць вокам! Насцярожаная цішыня, паўсюднае бязлюддзе, нібы аднекуль ідзе бяда, коціцца па сваіх сцежках, засцілае ўвесь небакрай курным дымам.

Гарацъ балоты. Асушаныя няўрымслівымі камунарамі. Па сцвярджэнні старажылаў, балоты гараць ужо больш як 40 гадоў. Уявіце сабе глыбіню 6--10 метраў, дзе гарыць торф, хутчэй тлее, перадаючы жахлівую эстафету, нябачную, злавесную.

Прыгадваецца 1963 год. Падчас свайго фотарэпарцёрства ў любаньскай раёнцы з красамоўнымназвам "Будаўнік камунізму" наведаў вёску Загалле. Там і здарылася бяда. У гарэлую тарфяную прорву праваліўся калгаснік з возам і канём. На глыбіню 5--6 метраў. Знік назаўсёды, як і не было...

Стары паляшук гаварыў мне:

-- Гэта помста. Помсціць прырода свайму заваёўніку. Наглуміліся над прыродай, наздзекваліся...

Асушалі балоты, спрамлялі рэкі, абгарожвалі, ставілі бетонныя засланкі-плаціны на рэчачках. А бывала, падрывалі і аманалам. Шахнуць... І канава на 500 метраў даўжынёй раззявіла пашчу...

У камунара сэрца, што крэмень

З жывым, легендарным камунарам, апетым Купалам у паэме "Над ракой Арэсай" -- старшынёй камуны на пачатку трыццатых Эмануілам Натанавічам Модзіным я сустракаўся безліч разоў, але фотаздымкаў ягоных амаль не захавалася, не любіў пазіраваць камунардырэктар саўгаса "Любаньскі з 1953 года па 1970 год.

Мне, раённаму фотакору, даводзілася ездзіць у Сосны -- цэнтральную сядзібу гаспадаркі даволі часта. Саўгас грымеў на ўсю рэспубліку. Гэткая палачка-выручалачка для раённай партвертыкалі. І бубен палітычны, і аркестр, і песня, калі хочаце. Як газетчыкі з Масквы, з Мінска -- у "Любаньскі", да Модзіна! Там на тарфяніках і колас нічога сабе, і бульба радзіла, і бурак, што гарбуз, разбухаў, кароўкі дояцца, свінчукі рохкаюць. Нездарма ж і Герояў там было, што дзяцей у маці-гераіні.

Прыгадваю стомленага, мудрага, негаваркога Модзіна. Ён нібыта ведаў сваю, толькі яму вядомую таямніцу. І бачна было, стаміўся ад ляскату партыйных газетных артыкулаў, шматлікіх нарад, сходзішчаў з усё адной і той жа дэмагогіяй. Даць, перагнаць, біцца...

Прыгадваю, ехалі з Модзіным з далёкай фермы ў Сосны. Было позна. Лістапад на дварэ, бралася на мароз. Ён сам за вадзіцеля дабітага старшынёўскага "козліка". Забуксаваў самаход, колы грунтоўна ўгрызліся ў гразюку, без дапамогі не выбрацца, трэба чакаць, а раптам нехта праімчыць. Запалілі цяпельца, грэліся.

Ён парушыў маўчанне, прагаварыўшы:

-- Не вер, хлопча, анікому, што асушанае балота падзеліцца сваімі скарбамі з чалавекам! Пустазвон ды ляскат! Трэба вучыцца гаспадарыць там, дзе спрадвечная зямелька, не чапаць балоты...

А пасля замаўчаў і праз доўгую паўзу працягваў:

-- А сколькі мы жыл з людзей павыцягалі! Бізуном, салодкім словам, абяцанкамі пра рай і багацце...

І мне нядобра робіцца... Што і я прыклаў да гэтага руку... Калі чытаў паэму "Над ракой Арэсай", сорам браў, за добрага паэта... Не Купалава рука гэта, не...

Шмат гадоў прайшло з тае пары, а словы гэтыя не забыліся. Я перагарнуў старонкі паэмы і выпісаў гэтыя словы:

"Апяюць у песнях працу, гераізм,
Як на край балотны ішоў сацыялізм..."

Недзе ў 1981 годзе я сустрэў ссівелага, хворага Модзіна на вуліцы Я.Купалы ў харчовым закутку крамы. Камунар дрыжачымі рукамі пералічваў грошы, углядваючыся ў вітрыну. Не пракарміла асушанае балота камунара, дый не толькі яго.

Герой у зашмальцаванай ватоўцы

Знакамітасць саўгаса "Любаньскі" пачатку шасцідзесятых -- Хведар Мікалаевіч Статкевіч. Старанны, працавіты, як рупная пчала ў звонкае лета. Усё спехам, бягом. Не паспее адсеяцца ўвесну, як коціцца лета, трэба змагацца са шкоднікамі, даглядаць пасевы, рыхтаваць тэхніку да ўборкі. Твар змораны, заклапочаны.

Здымаць праслаўленага ратніка саўгасных палёў было ой як нялёгка! Нафотагенічны, няголены, апрануты ў адну і тую ж зашмальцаваную ватоўку. А мне трэба на перадоўку раёнкі ўзнёслага, жыццярадаснага стаханаўца, пра якога ўвесь Саюз ведае.

Асабліва праславіўся Хведар Статкевіч на бульбяных палетках. Браў з гектара па 500 цэнтнераў з асушанага тарфянога гектара. Праўда, амерыканцы і не на тарфяніках бралі ўдвая больш, але пра гэта савецкія людзі не ведалі аж да перабудовы. Бульба з тарфянікаў і колер мела дзіўны, мылкая, нясмачная, ішла цалкам на свінафермы, але ў бубновых рапартах пра гэта ні слова.

Па заданні рэдактара раёнкі я выехаў у Сосны, адшукаў хату знакамітага бульбавода. А знайшоўшы, моцна здзівіўся. І не паверыў вачам сваім. Перапытаў у бабулі. Так, гэта дом Хведара Мікалаевіча Статкевіча, пацвердзіла бабуля.

Замест аконнага шкла ў атворах тырчэлі падушкі. Збуцвелая хата пад саломенай шапкай-дахам. Я адчыніў веснікі, зайшоў у хату. І новае здзіўленне. Падлогі ў хаце не было, голая зямля, жоўценькі жвір, пасохлы аер пад нагамі. І голыя сцены...

Гаспадар хаты выйшаў на вуліцу, а для фоткі прыхапіў усё тую ж зашмальцаваную ватоўку. Я перагледзеў усе здымкі, зробленыя 35 гадоў таму, -- усё тая ж ватоўка, той жа змораны твар. Ці не пара нашу ватоўку "прасунуць" на нобелеўку! Вунь колькі харошых людзей ратавала.

У вёсцы Сорачы -- палац!

Кузьма Іванавіч Шаплыка не камунар, але слава пра яго моцнымі хвалямі даносілася да сталіцы. Менавіта пра яго казалі, што такія, як старшыня калгаса "Чырвоная змена" Кузьма Шаплыка, да ўсяго Саюза славу прыбаўлялі. Я не магу прыпомніць аніводнага больш-менш сціплага ці слыннага сходзішча калгасна-саўгасных рупліўцаў, дзе б за харошым абрусам не сядзеў Герой з Любаньшчыны -- Кузьма Шаплыка.

У шасцідзесятых па ўсёй Беларусі пакацілася новая хваля -- будаўніцтва вясковых палацаў культуры. І будаваў не толькі Бядуля на Камянеччыне, Калачык на Мядзельшчыне, але і Шаплыка на Любаньшчыне. У вёсцы Сорачы!

У Любані сіроцкі дом культуры, а ў Сарачах -- палац! Напяліся, доўга будавалі, шматразова пераносілі тэрміны завяршэння, звозілі ўсю Любань на суботнікі. Урачыстыя ўваходзіны, хваласпеў, бубны. Але, але... Так і стаіць ледзь не ў голым полі палац калгасны. Зімой няўтульны, паспрабуў абагрэць яго, а летам пустэльны. Я пабываў там і ўбачыў сумную карціну. Абшарпаныя сцены, занядбаныя закуткі, даўно без належнага рамонту.

Тых сродкаў, якія былі ўгаханы на палац культуры ў Сарачах, хапіла б на тое, каб кожнаму калгасніку "Чырвоная змены" правесці ў хату ваду, падключыць ацяпленне і гнаць у кожную хату цяпло ад калгаснае кацельні. Але хто і калі клапаціўся пра простага вясковага ратніка. Палац -- ого! А ваду дзядзька і цётка прыцягнуць і са студні.

У Гульнёвым падворку гаспадараць крумкачы

Дзіўнае ўражанне ад Любані верасня 2002 года. За 40 гадоў пасля майго развітання з мясцінай на пачатку шасцідзесятых, дойліды ў Любані не дужа і шчыравалі. Самая "прыкольная" забудова апошніх гадоў -- будынак, дзе атабарыліся банкіры "Беларусбанка". Гэтыя ўмеюць усюды хораша жыць, хай у Любані, Слуцку ці ціхмяным Клецку. Цэнтральны асяродак Любані ў палоне высокіх таполяў з густымі чупрынамі. А воддаль, праз дарогу, вартавы Любані -- бронзавы Ленін, надта аграмадны для сціплага мястэчка сярод асушаных балотаў.

А вось мудрагелістая брамка з надпісам "Гульнёвы падворак" запрашае ў алею славы. Іду, дзіўлюся. Прыцягваюць увагу надта аграмадныя, пэўна для тлустай галачкі начальства, жывапісныя партрэты тых, хто ўтомнай працай, жывата не шкадуючы, славіў Любаньшчыну. Пад партрэтамі -- адно: прозвішчы, імёны, імёны па бацьку. І ўсё... Адкуль, за якія геройскія ўчынкі такая ласка? Кажаце, любанцы ведаюць сваіх герояў, як бацькоў сваіх дзяцей родных. Праверым. Спыняю добра апранутую кабету сярэдняга веку і пытаюся, паказваючы на герояў:

-- Што за паважаныя людзі на алеі славы?

-- А я не ведаю, -- гучыць адказ.

Спыняю дзелавога мацака з папачкай пад пахай, у яго пытаюся пра тое ж.

-- Аднаго ведаю, побач жыў, а астатніх -- не...

А ў алеі герояў: Аляксандр Слабада.

На жаль, усе партрэтныя героі з алеі славы абстраляны "кулямётнымі" чэргамі памёту -- крумкачы ўтульна пачуваюцца ў чупрыных таполях.

**Вячаслаў ДУБІНКА.** (Нар. Воля)

**Нам надзвычай прыемна ведаць, што нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць і хочуць думаць...**

 

# Свята паэзіі, Колас і мы

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА** (Зьвязда)

На Стаўбцоўшчыне адбылося Рэспубліканскае свята паэзіі, прысвечанае 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Тыя, хто былі на ўшанаванні 100-годдзя паэта, кажуць, што на гэты раз было значна менш пампезнасці, народа, паэзіі і больш чалавечнасці.

Раніцай ішоў дождж, даволі халодны і часты, але народ на цэнтральнай плошчы Стоўбцаў не разыходзіўся. Зводны духавы аркестр гарадскога Дома культуры і школы мастацтва прамок да ніткі. У дзяўчынак з узорных харэаграфічных ансамбляў «Вішанька» і «Гарошынка» (з вёсак Вішнякоўка і Заямнае) трэсліся ад холаду вусны, і не дзіва: яны стаялі пад дажджом з непакрытымі галовамі і голымі нагамі ў стылізаваных пад народныя строях. Пад'ехаў аўтобус з пісьменнікамі, навукоўцамі, музейцамі, журналістамі і сваякамі Якуба Коласа... Да іх далучыліся намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Дражын, ён жа — старшыня Нацыянальнага аргкамітэта па святкаванню 120-годдзя Коласа, памочнік прэзідэнта Іван Карэнда, міністр культуры Леанід Гуляка...

Дарэчы, высокапастаўленыя чыноўнікі ў знак салідарнасці з артыстамі глядзелі танцы, слухалі песні і музыку і частаваліся вялізнымі яблыкамі з рук змерзлых дзяўчынак таксама з непакрытымі галовамі. Закрытыя парасоны яны трымалі ў руках. Тым не менш, халодны дождж не перашкодзіў ні аркестру, якім па-майстэрску дырыжыраваў Іван Янкоўскі, ні фальклорнаму гурту, ні дзіцячым ансамблям выступіць як мае быць — яны задалі тон ушанаванню свайго славутага земляка.

Потым аўтобусы пад малітвы дырэктара Літаратурнага музея Якуба Коласа Зінаіды Камароўскай аб сканчэнні дажджу, накіраваліся ў Акінчыцы — месца нараджэння Кастуся Міцкевіча, чалавека-сімвала. Увогуле, падобныя святы для Зінаіды Мікалаеўны, жыхароў Стаўбцоўшчыны і Панямоння — справа звыклая. Хоць і не ў такім маштабе, але штогод у гэтых мясцінах праходзяць «Каласавіны» — навуковыя канферэнцыі, ускладанне кветак да помніка ў Мікалаеўшчыне і наведванне мемарыяльных мясцін. Сёлета «Каласавіны» яшчэ наперадзе — яны ж прымеркаваныя да дня нараджэння паэта, а гэта будзе 3 лістапада.

Дождж сцішэў не ў Акінчыцах, дзе мікрафоны для выступоўцаў былі пастаўлены пад страхой аднаўленай сядзібы — дакладнай копіі той, у якой нарадзіўся будучы паэт. Дом, у якім каморны стражнік Міхал Казіміравіч і яго жонка Ганна Юр'еўна Міцкевічы прынялі трэцяга сына Кастуся, згарэў падчас адступлення нямецкіх войскаў у Айчынную вайну. Мемарыяльная сядзіба адноўлена ў такім выглядзе, якой яна і была ў 1882 годзе.

Пры шляху шырокім,
Дзе стаіць камора,
Я на свет радзіўся
Пад глухі шум бору,
Позняю парою,
Восенню гнілою.

На жаль, не ўдалося захаваць навакольнае асяроддзе былога хутара: «глухі шум бору» выцесніў горад Стоўбцы.

Дождж сцішыўся толькі ў Дубах. Мо таму, што гэта адно з самых любімых месцаў дзядзькі Якуба, хоць ён і не быў тут дзесяцігоддзі. Спачатку перашкаджала вайна, потым — мяжа, потым — другая вайна, потым памерла жонка і не вярнуўся з вайны сярэдні сын. Кажуць, ён зноў стаў адзінокім ... Жыццё чалавечае напоўнена таямнічым сэнсам, знакамі і сімваламі. Сюды прыязджаў Канстанцін Міхайлавіч і ў апошнюю сваю вясну. Мо тут яго душа, мо нябёсы пачулі малітвы, але не проста дождж сціхшэў — да галоўнай часткі свята ва ўрочышчы Бервянец надвор'е усталявалася ціхае і сонечнае.

«Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся па беразе Нёмана.

Такіх дубоў цяпер рэдка ўбачыш. Іх не чапала рука людская, толькі доўгія часы палажылі свой след — пячаць глыбокай старасці. І многа ўсякіх змен часу бачылі гэтыя нямыя сведкі прошласці! Жыццё многіх людскіх пакаленняў прайшло перад імі і праходзіць, бы тыя хвалі Нёмана, што пакручастым змеем абвівае тут сялібу, вясокі роўны груд, а яны ўсё стаяць, спакойныя, важныя, і жывуць сваім асобным жыццём».

Дубы, пад якімі любіў ляжаць юны Кастусь і думаць пра жыццё і смерць, пра вечнасць і імгненне, пра адзіноцтва, стаяць і дагэтуль. Нёман цячэ сабе, толькі сёлета ён тут ушчэнт зарос раскаю. Пляцоўку, якую будавалі да стагоддзя паэта, спалілі турысты, кажуць яна была ўдвая вышэй і шырэй за сённяшнюю.

— Народу тады было шмат, — узгадвае малодшы сын Якуба Коласа Міхась і акідвае вялікую паляну са старымі дубамі, на дзесятую, можа, частку запоўненую людзьмі, потым разгублена глядзіць на мяне:

— Што вы хацелі спытаць?

— Які ў Вас настрой?

— Не вельмі вясёлы, але і не дрэнны, прызнаюся.

— Чым Вы жывяце?

— Ежу маю, і матэрыяльную, і духоўную. Духоўную — вельмі багатую.

— Што б Вашага бацьку расчаравала на сённяшні дзень?

— Тым, што некаторыя людзі кажуць сёння, што няма такога народа — беларусы. Калі я сам такое чую, усё пераварочваецца.

Але, як толькі я дастаю дыктафон, Міхаіл адмахваецца: «Не-не, я не падрыхтаваны. Рэпліку я яшчэ магу экспромтам, але не інтэрв'ю».

На свяце гучалі вершы Якуба Коласа, шмат пелі і танчылі. Па беразе былі раскіданыя латкі з вырабамі мясцовых майстроў. Працавалі кафэ. На адзіным кніжным латку былі за пяць хвілін раскупленыя 30 зборнікаў твораў юбіляра і 50 невялічкіх кніжачак «Пуцявінамі Коласа», прысвечаных сёлетняй даце.

— ...Якуб Колас — гэта чалавек, які заснаваў нашу нацыянальную беларускую прозу. Мы не ўяўляем сябе без «Новай зямлі», «Сымона-музыкі»... Якуб Колас зазірнуў у нашу нацыянальную скарбонку, у душу беларуса. Гэта не толькі пісьменнік, паэт, гэта чалавек, які вельмі шмат зрабіў для Беларусі як асветнік, як грамадска-палітычны дзеяч, — сказаў Уладзімір Дражын, адкрываючы свята. — За апошнія дваццаць гадоў мы зрабілі яшчэ некалькі крокаў да ўшанавання памяці нашага вялікага песняра ... Калі нас спытаюць наступныя пакаленні, мы можам сказаць, што ўжо не вузкімі дарогамі творчасць Якуба Коласа ідзе да народа, а гэта шырокая плынь...

— Фактычна, калі б не было Якуба Коласа і Янкі Купалы, мы не жылі б сёння ў самастойнай дзяржаве, — дадаў ў сваім выступленні акадэмік, дырэктар Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Падлужны. — Акрамя ўсяго іншага, ён з'яўляецца адным з заснавальнікаў беларускай літаратурнай мовы, ён выхаваў цэлую плеяду выдатных паэтаў. Тытанізм Якуба Коласа заключаўся ў тым, што ён сапраўды быў рознабаковы... Ён быў і буйным вучоным. Руска-беларускі слоўнік, які рабіўся пад кіраўніцтвам Якуба Коласа (за апошняе дзесяцігоддзе выйшла недзе дзевяць выданняў) — гэта адзін з найлепшых слоўнікаў на нашай Беларусі...

Унучка Якуба Коласа Вера Міцкевіч засталася задаволенай святам:

— Вы бачылі, колькі было дзяцей і якія ў іх былі шчаслівыя вочы! Гэта ж самае галоўнае. Канешне, добра было б, калі б дзеці ўзялі ўдзел у свяце, а не проста назіралі. Можна было б арганізаваць конкурсы вершаў і тут уручыць узнагароды з рук паэтаў. Тады б дзеці далучыліся да спадчыны Якуба Коласа. Але ўсё роўна свята атрымалася. Ці пра такую Беларусь марыў дзед? Думаю, не зусім. Ён марыў пра свабодную і шчаслівую краіну. З другім ў нас пакуль не вельмі.

Вера Данілаўна шмат гадоў працавала ў музеі дзеда, але год таму вымушана была звольніцца, бо заробку на жыццё не хапала. Зараз яна працуе экспертам у Фондзе «Узаемаразуменне і прымірэнне».

***

На зваротным шляху нехта ўзгадаў, што на стагоддзе паэта на Цэнтральнай вуліцы Стоўбцаў былі пасаджаны 103 бярозкі. 103 — гэта з запасам, на выпадак, што не ўсе прыжывуцца. Меркавалася, што тут будзе алея — сімвал нашага шляху да Коласа. Альбо шляху беларускай літаратуры — саджалі ж бярозкі Максім Танк, Янка Брыль ... усе госці свята. Праз 12 год з'явілася неабходнасць на месцы гэтай алеі пракласці газавую трубу і каналізацыю — горад пашыраўся. Спачатку вырашана было дрэвы знішчыць. Але Анатоль Грэкаў, кіраўнік аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама, той самы, які разам з Зінаідай Камароўскай быў ініцыятарам і арганізатарам стварэння велічнага мастацкага комплексу «Шлях Коласа», узяўся за вар'яцкую справу (мо з адчаю?): дванаццацігадовыя дрэвы перасадзілі ўздоўж дарогі да Акінчыц. Амаль усе дрэвы загінулі. Засталіся толькі тры. Мо гэтыя тры дрэвы выплакалі ў Бога людзі? Тыя, якія разумелі, што насамрэч яны сімвалізуюць.

***********************************************

# Газэта "Народная воля" ў аблозе...

Галоўны рэдактар "Народнай волі" І. Сярэдзіч упэўнены, што яго ная газэта будзе існаваць, нягледзячы на ўсе спробы ўладаў расправіцца з выданьнем. Так ён пракамэнтаваў учорашнюю заяву старшыні ФПБ Л.Козіка пра намер дамагацца закрыцьця "Народнай волі". Л.Козік заявіў на сустрэчы з журналістамі 25-га верасьня, што накіруе міністру інфармацыі зварот з просьбай прыпыніць выхад выданьня, якое, на ягоную думку, некалькімі публікацыямі зьняважыла ФПБ і ейных сябраў.

У Міністэрстве інфармацыі ліста Л.Козіка пакуль не атрымалі. Са зьвестак, папера яшчэ нават не падпісаная старшынём ФПБ, хаця ўжо цалкам падрыхтаваная. Як заявіў на ўчорашняй прэс-канфэрэнцыі сам Л.Козік, яго абурылі "зьневажальны" тон і лексыка, ужытыя аўтарамі некалькіх артыкулаў у "Народнай волі" дачынна ФПБ й лідэра арганізацыі. Паводле папярэдняе інфармацыі, у сваім лісьце да М.Падгайнага Л.Козік спасылаецца на артыкул 16 дзейнага Закону аб друку й просіць прыпыніць выхад газэты.

Невядома пакуль, на якую рэакцыю Міністэрства разьлічвае Л.Козік. У Міністэрстве ж сытуацыю пакуль не камэнтуюць: па-першае, ліст ад Козіка яшчэ не прыйшоў; па-другое, М.Падгайны, якому адрасавана пасланьне, цяпер хварэе. Між тым, калі міністар інфармацыі вырашыць на падставе хадайніцтва Л.Козіка вынесьці "Народнай волі" папярэджаньне, газэце й сапраўды можа пагражаць закрыцьцё. У гэтым годзе "Народная воля" ўжо мае адно папярэджаньне (ад 20.03.2002), а два папярэджаньні цягам году могуць стаць падставай для закрыцьця выданьня (згодна з арт. 5 Закону аб друку).

Мы зьвярнуліся па камэнтар сытуацыі да галоўнага рэдактара "Народнае волі" І.Сярэдзіча, які даведаўся пра намеры Л.Козіка зь вечаровага тэлерэпартажу БТ.

- Учора ўвечары я пачуў гэта па БТ. І скажу шчыра: ледзь з канапы не зваліўся ад сьмеху. Ад сьмеху! Каб лідэр прафсаюзаў настойваў на тым, каб забараніць выхад газэты... Калі б гэта здарылася, скажам, у Нямеччыне, уся Нямеччына ад сьмеху памерла б...

Між тым, заява Л.Козіка - гэта ўжо трэці закід уладаў у бок "Народнай волі" пасьля таго, як на прэс-канфэрэнцыі А.Лукашэнкі 17-га верасьня прагучэла пагрозьлівае папярэджаньне, што гэтае газэты ў Беларусі можа "ня быць". 20-га верасьня судовыя выканаўцы апісалі частку маёмасьці рэдакцыі выданьня на суму 5 млн. рублёў - паводле даўняга зыску судзьдзі Т.Злобіч. У той жа час зьявілася інфармацыя пра пракурорскую праверку абставінаў публікацыі ў "Народнай волі" інтэрвію з былым дырэктарам МТЗ М.Лявонавым, які ўтрымліваецца ў Жодзінскім СІЗА. Праз некалькі дзён Л.Козік агучыў ініцыятыву пра закрыцьцё газэты. Ці няма ў І.Сярэдзіча адчуваньня, што газэта аказалася "ў аблозе"?

- Ведаеце, "аблога" "Народнай волі" пачалася з 1-га выхаду газэты ў сьвет - у 1995 годзе. Я ўсім сказаў: пры жыцьці дзядзькі Язэпа (І. Сярэдзіча) "Народная воля" будзе выходзіць. Я ўжо ня ведаю, што пасьля сьмерці будзе... А пры жыцьці яна будзе выдавацца!

**Тым часам, як сьведчаць апошнія апытаньні Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў, дзеяньні ўладаў дачынна недзяржаўнае прэсы не знаходзяць падтрымкі ў грамадзтве. Толькі каля 16-і адсоткаў апытаных грамадзян Беларусі лічаць справядлівым судовы перасьлед журналістаў "Пагоні", "Рабочага" й "Нашае свабоды"; 40,6 адсоткаў рэспандэнтаў прытрымліваюцца адваротнага меркаваньня.**

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Саюзам пісьменнікаў будзе кіраваць малады літаратар

30-гадовы празаік Алесь Пашкевіч абраны новым старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП) на надзвычайным зьезьдзе, які 24 верасня адбыўся ў мінскім Доме літаратара.

На пасаду лідэра СБП былі прапанаваны кандыдатуры празаікаў Алеся Пашкевіча і Уладзіміра Ліпскага, паэта Міколы Мятліцкага, перакладчыка Анатоля Бутэвіча і былога старшыні творчага аб'яднання Вольгі Іпатавай. Трое апошніх знялі свае кандыдатуры і ў бюлетэнь для тайнага галасавання былі ўнесены прозвішчы А.Пашкевіча і У.Ліпскага.

За У.Ліпскага падалі галасы 118, за А.Пашкевіча -- 159 з 292 удзельнікаў зьезда, што прынялі ўдзел у галасаванні. 15 бюлетэняў былі прызнаны несапраўднымі.

Новы лідэр СБП адзначыў, што адчувае "пачуццё адказнасці маладосці перад старэйшымі пакаленнямі літаратараў". Ён выказаў надзею, што "беларуская літаратура, родная мова і наша Беларусь будуць жыць вечна".

Камэнтуючы БелаПАН вынікі зьезда, член рады СБП паэт Леанід Дранько-Майсюк заявіў: "Многія, у тым ліку і я, хваляваліся, што цяперашні зьезд будзе апошнім. Аднак хваляванні, на шчасце, былі дарэмнымі, наша творчая арганізацыя працягне сваё існаванне. Беларусі неабходна адзіная арганізацыя пісьменнікаў, якая зьяўляецца ядром людзей -- носьбітаў беларускай нацыянальнай свядомасці. Менавіта СБП можа найбольш змястоўна і цікава прадстаўляць нацыянальную культуру як у сваёй краіне, так і за яе межамі". Паводле слоў паэта, у цяперашняй сітуацыі "вялікую ролю адыгрывае асоба старшыні СБП, які мог бы як горача спрачацца з уладамі, так і высакародна дамаўляцца з імі". "Такой фігурай -- таленавітай, дынамічнай, мабільнай і інтэлектуальнай -- як раз і зьяўляецца Пашкевіч, у характары якога маюцца рысы гаспадара, воіна і дыпламата. Ён заявіў аб сабе як яркі педагог, выкладаючы ў Белдзяржуніверсітэце, як узорны арганізатар кнігавыдавецтва і як таленавіты літаратар, аб чым магу асабіста засведчыць, паколькі быў рэдактарам яго першай кнігі, якая выйшла з друку ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1994 годзе", -- сказаў Л. Дранько-Майсюк.

IN MEMORIAM

Памёр ведамы беларускі патрыёт —

## Леанард НОРЫК

4-га ліпеня 1929 — 28 верасьня 2002

Леанард Норык нарадзіўся на Навагрдачыне ў вёсцы Вераскава. Памёр у штаце Канэктыкут, ЗША. Пахаваньне адбылося на беларускім магільніку ў Іст Брансвіку, Нью Джэрзі.

Леанард быў шчыра-сяброўскім, гасьцінным, працавітым і адданым беларускай ідэі. Быў сталым чытачом і ахвярадаўцам нашае газэты.

Сьпі пад курганам герояў,
Сьпі працаўнік і змагар.
Несены верна табою,
Ціха схіліўся штандар!

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

# ЗША заклікае Беларусь на правільны шлях

"Беларусь павінна вярнуцца на шлях палітычнай лібералізацыі і выканання правоў чалавека, калі яна імкнецца палепшыць стасункі з міжнароднай супольнасцю і пакласці канец самаізаляцыі". Пра гэта гаворыцца ў Заяве ўрада ЗША наконт суда над Віктарам Івашкевічам, распаўсюджанай Пасольствам Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі.

Урад Злучаных Штатаў Амерыкі "далучаецца да заяў Еўрасаюза і прадстаўніка АБСЕ па свабодзе СМІ Фраймута Дуве, якія асуджаюць прызнанне вінаватым галоўнага рэдактара беларускай газеты "Рабочы" Віктара Івашкевіча... Злучаныя Штаты разглядаюць гэтыя дзеянні як прыкмету працягваемага пагаршэння сітуацыі са свабодай прэсы ў Беларусі". У заяве таксама зазначаецца, што "справа Івашкевіча паследавала за прысудам, вынесеным 24 чэрвеня журналістам гродзенскай недзяржаўнай газеты "Пагоня" Мікалаю Маркевічу і Паўлу Мажэйку".

ЗША заклікаюць урад Беларусі адмяніць гэтыя абвінавачанні і прыгаворы, "несправядлівыя законы аб паклёпе", а таксама спыніць "палітыку крымінальнага пераследу і запалохвання незалежных журналістаў". "Беларусі варта прытрымлівацца сваіх абавязацельстваў у галіне свабоды слова і свабоды СМІ, якія яна ўзяла на сябе як краіна -- удзельніца АБСЕ", -- падкрэсліваецца ў заяве ўрада ЗША.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## "За незалежнасьць! Беларускі народ - гаспадар сваёй краіны!"

Такі назоў будзе мець супольная вулічная акцыя беларускіх палітычных партыяў, прафзьвязаў і грамадзкіх арганізацыяў, прызначаная на 17-га лістапада. Галоўнаю мэтаю выступу будзе "дэманстрацыя рашучасьці й адзінства беларускага народу ў адстойваньні незалежнасьці Беларускай дзяржавы". Аргкамітэт рашуча намераны правесьці масавае шэсьце й мітынг у цэнтры гораду, незалежна ад дазволу гарадзкіх уладаў. Пра гэта паведамілі журналістам 1-га кастрычніка лідэры шэрагу партыяў, што рыхтуюць акцыю.

Ініцыятарам акцыі 17-га лістапада выступае Кансультацыйная рада апазыцыйных палітычных партыяў (КРАПП). Аднак аргкамітэт адкрыты для ўсіх плыняў і рухаў, якія падтрымліваюць лёзунгі акцыі. На гэты момант у аргкамітэт увайшлі прадстаўнікі партыі БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, незарэгістраванай пакуль Аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі (АСДП), Лібэральна-дэмакратычнай партыі, незарэгістраваных Маладога Фронту й Беларускай Партыі Свабоды. Аднак ужо найбліжэйшым часам гэты сьпіс можа папоўніцца.

=====================

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. Камунікат, № 2, 2002, Варшава, 44 бач.
2. Роднае Слова, № 7, 2002, Менск, 114 бач.
3. Кантакты і Дыялогі, № 7-8, 2002, Менск, 66 бач.

# Нас менш і менш...

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, у 2001 годзе каэфіцыент нараджальнасці ў Беларусі склаў 9,2 на 1000 насельніцтва. Узровень смяротнасці склаў 14,1 праміле, натуральныя страты насельніцтва -- 4,9 праміле.

У параўнанні з 2000 годам гэтыя паказчыкі крыху пагоршыліся: тады каэфіцыент нараджальнасці складаў 9,4 праміле, узровень смяротнасці -- 13,5 праміле, натуральныя страты насельніцтва -- 4,1. Чакаемая працяглацсь жыцця для мужчын у Беларусі -- 62,8 года, для жанчын -- 74,5 года.

Самы нізкі паказчык узроўню нараджальнасці за апошняе дзесяцігоддзе ў Беларусі быў зафіксаваны ў 1997 годзе -- 8,9 на тысячу насельніцтва.

Калі параўнаць з паказчыкамі краін СНД, то ў Расіі ў 2001 годзе каэфіцыент нараджальнасці склаў 9,1 праміле, узровень смяротнасці -- 15,6 праміле, натуральныя страты насельніцтва -- 6,5 праміле. Ва Украіне, паводле звестак на 2000 год, паказчык нараджальнасці -- 7,8 на 1000 насельніцтва, смяротнасці -- 15,3 праміле, а натуральныя страты насельніцтва дасягнулі 7,5. У Азербайджане (у 2000 годзе) колькасць народжаных на тысячу насельніцтва склала 14,8, колькасць памерлых -- 5,9, натуральны прырост -- 8,9 праміле. У Латвіі каэфіцыент нараджальнасці ў тым жа годзе склаў 8,0 праміле, смяротнасць -- 13,5, натуральныя страты насельніцтва -- 5,5 праміле.

У краінах далёкага замежжа, у прыватнасці, у еўрапейскіх дзяржавах, дэмаграфічная сітуацыя больш спрыяльная. Паводле звестак 2000 года, у Польшчы і ў Аўстрыі натуральныя страты (прырост) насельніцтва былі нулявыя, у Германіі яны склалі 0,9. У Вялікабрытаніі натуральны прырост насельніцтва быў роўны 1,2 праміле, у Францыі -- 3,4 праміле. У ЗША гэты паказчык дасягаў 6 праміле.

************************************************

## Пабачыў свет "Дзеяслоў"

У Мінску пабачыла свет новае літаратурна-мастацкае і публіцыстычнае выданне пад назвай "Дзеяслоў". Першы яго нумар, выпушчаны тыражом 1000 асобнікаў і аб'ёмам 256 старонак, змяшчае творы такіх вядомых у Беларусі літаратараў, як Святлана Алексіевіч, Янка Брыль, Юрый Станкевіч, Міхась Скобла, Ніл Гілевіч, Алесь Пісьмянкоў, Сяргей Дубавец, Уладзімір Някляеў. Галоўны рэдактар "Дзеяслова" -- былы намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" пісьменнік Барыс Пятровіч. Па яго словах, "пасля таго, як праз стварэнне холдынгу "ЛіМ" дзяржава прыватызавала літаратурна-мастацкія часопісы, паўстала неабходнасць стварэння альтэрнатыўных выданняў. І першай ластаўкай стаў "Дзеяслоў".

## Паштовая марка, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа

У абарачэнне ўведзена паштовая марка, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння класіка нацыянальнай літаратуры, народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Паштовая мініяцюра наміналам 100 рублёў зроблена паводле эскіза мастака Мікалая Рыжага і аддрукавана тыражом 85 тысяч 740 асобнікаў. На ёй змешчаны элементы абароны, тэкст "Беларусь, Belarus" і фрагмент беларускага арнаменту, якія праяўляюцца пад ультрафіялетавымі промнямі.

# У Маскве -- другі зьезд "Беларусаў Расіі"

Другі зьезд Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" прайшоў 2 кастрычніка ў Маскве.

Федэральная нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Расіі" была створана ў 1999 годзе і налічвае звыш 100 тысяч чалавек. Сярод іх -- прадстаўнікі 11 аўтаномій беларусаў з Рэспублікі Комі, Карэліі, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Краснаярска, Калінінграда, Екацерынбурга і іншых расійскіх гарадоў.

Як паведаміў БелаПАН намеснік старшыні аргкамітэта зьезду Юрый Волчак, на зьездзе прысутнічалі прадстаўнікі 53 беларускіх арганізацый, зарэгістраваных у Расіі, а таксама прадстаўнікі міжнароднай грамадзкай арганізацыі "Бацькаўшчына", журналісты, прадстаўнікі прамысловых прадпрыемстваў.

Галоўную ўвагу зьезд надае развіцьцю рэгіянальных структур, дзе найбольш актыўна рэалізуецца нацыянальная палітыка і дзейнічаюць сумесныя расійска-беларускія эканамічныя праекты.

************************************************

***Падтрымоўвайце "Беларускі Дайджэст" ды заахвочвайце іншых!***



## Віншуем

з 80-мі ўгодкамі жыцьця

## сп. Пятра Нягоду

беларускага патрыёта са штату Іліной, Чыкага.

Жадаем добрага здароўя, усяго найлепшага і далейшага служэньня Беларускай справе.

**Многія Лета!**

## ЗНОЙДЗЕНЫ СКАРБЫ РАДЗІВІЛАЎ

Грамадзкая камісія па праблеме рэстытуцыі (вяртаньня) беларускіх каштоўнасцей, што знаходзяцца за мяжой, Беларускага фонду культуры вызначыла месцазнаходжаньне маёмасьці магнатаў Радзівілаў. Вынікі дасьледаваньня часткова зьмяшчаюцца ў кнізе "Нясьвіжскія зборы Радзівілаў", што выйшла сёмым выданнем у рубрыцы "Вяртанне" пад рэдакцыяй доктара філялягічных навукаў Адама Мальдзіса. У ёй дакладна апісана месцазнаходжанне значнай часткі маёмасці магнатаў, як у Беларусі, так і за яе межамі. Прэзентацыю выдання запланавана правесці ў верасьні. Спробы даследчыкаў дамагчыся стварэння дзяржаўнай структуры, якая б займалася праблемамі вяртаньня беларускіх нацыянальных каштоўнасцей з замежжа, далі плён. Загадам міністра культуры Беларусі створана рабочая група па падрыхтоўцы прапаноў, звязаных з ажыццяўленнем рэстытуцыі. Член групы, старшыня грамадзкага аб'яднання "Беларускі фонд культуры" Уладзімір Гілеп у інтэрвью БелаПАН адзначыў, што варта распрацоўваць дакумент, які б рэгуляваў працэс рэстытуцыі. "Мы не ставім пытанне пра абавязковае вяртаньне таго ці іншага рарытэта, - сказаў ён. - Мы ставім пытанне так: Беларусь павінна ведаць, дзе знаходзіцца беларускае ў сьвеце. Беларусь мусіць наладзіць дзяржаўныя кантакты па лініі Міністэрства культуры, каб можна было ў любы момант папрасіць у той дзяржавы і, стварыўшы двухбаковыя камісіі, дамовіцца аб вяртанні рарытэтаў на наш бок на часовыя выстаўкі, на дэпазіт у музэі".

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

* * *

Чатыры апазыцыйныя фракцыі ў Вярхоўнай Радзе Украіны адмовіліся ўдзельнічаць у галасаваньні, што прывяло да практычнага спыненьня працы парлямэнту.

Апазыцыя патрабуе правядзеньня надзвычайнай дэбаты, прысьвечанай палітычнай сытуацыі ў краіне, аднак гэтая прапанова ня была ўведзена ў парадак дня з-за адсутнасьці патрэбнай колькасьці галасоў. Акрамя гэтага, сацыялісты, камуністы ды блёк Юліі Цімашэнкі патрабуюць адстаўкі прэзыдэнта Леаніда Кучмы, які, паводле іх, зьяўляецца прычынай крызысу й напружаньня. Апазыцыя аднак ня мае ў парлямэнце патрэбнай колькасьці галасоў, а прапрэзыдэнцкія партыі ня хочуць правядзеньня дэбаты наконт палітычнай сытуацыі. Калі прапанова ня была прынята, апазыцыйныя дэпутаты адмовіліся галасаваць. Залу паседжаньняў пакінулі нават дэпутаты памяркоўнай і найбольшай фракцыі "Наша Ўкраіна". Яе прадстаўнік Уладзімір Філенка сказаў, што фракцыі прыме ўдзел у акцыях пратэсту як у парлямэнце, так і па-за яго сьценамі, калі улада ня згодзіцца на дыялёг з апазыцыяй. Бяз удзелу апазыцыі Вярхоўная Рада ня зможа прыняць ані воднага законапраекту. Калі крызыс зацягнецца, ва Украіне могуць адбыцца датэрміновыя выбары. Паводле канстытуцыі, калі на працягу 30-ці дзён парлямэнт ня выконвае сваіх паўнамоцтваў, прэзыдэнт дзяржавы можа яго распусьціць.